

Ніл ГІЛЕВІЧ

# І яшчэ раз аб нашай мове

Народная Воля

## З вечаровых роздумаў на самоце

### Цынізм маніпулятараў

У адказ на трывожнагнеўныя галасы патрыётаў роднага слова, актывістаў Таварыства беларускай мовы, газеты зноў апублікавалі афіцыйныя "статыстычныя даныя": у краіне беларускіх школ нашмат больш, чым рускіх. Дык чаго вы, спадары нацыяналісты, падымаеце крык-лямант? Што вам яшчэ трэба? Нам бы хоць выраўняць сітуацыю, каб у адпаведнасці з рэферэндумам і рускіх школ у рэспубліцы стала столькі ж, колькі беларускіх! У імя Канстытуцыі і Закона! У імя раўнапраўя! Раз дзве мовы прызнаны дзяржаўнараўнапраўнымі, дык хай і школ будзе роўная колькасць — і тых і другіх, і беларускіх і рускіх.

У які ўжо раз чытаю ў друку гэтую разлічаную на недасведчаных грамадзян крутню, — і ў які раз думаю: да якой жа ступені трэба страціць сваю чалавечую годнасць, каб так цынічна маніпуляваць лічбамі? Аніякай няёмкасці — ні перад Богам, ні перад людзьмі, ні перад дзецьмі і ўнукамі, — ні перад кім! Поўнае атрафіраванне пачуцця сораму. Поўнае вызваленне сябе ад такой хімеры, як сумленне.

Паслухайце, таварышы начальнікі! Ну вы ж добра ведаеце, што на беларускай мове працуюць у Беларусі, за нязначным заняткам, маленькія вясковыя школкі. Вы добра ведаеце, колькі ў сярэднім вучняў у адной рускай школе і колькі ў беларускай. Калі ў рускай, скажам, тысяча, то ў беларускай — пяцьдзесят. У дваццаць разоў менш! У выніку: у Беларусі на дваццаць дзяцей, якія вучацца на рускай мове, прыпадае адно дзіцятка, якое вучыцца на беларускай мове. Дык чаму вы, шаноўныя, хоць бы ад страху перад Богам, перад сваім народам, перад нашчадкамі, не называеце гэтыя лічбы? Лічбы — у якіх уся праўда пра становішча беларускай школы, пра раўнапраўе моў наогул? Чаму вы не крычыце, не б'еце ў званы, што беларуская школа знікае, гіне, што добрых, паўнавартасных беларускіх школ у Беларусі зусім-зусім мала? Што пераважаюць, раскінутыя па перыферыйнай глухамані, дробныя бесперспектыўныя школкі, вучні якіх асуджаны на пажыццёвае капанне ў зямлі і гноі, а таму няхай сабе вучацца і па-беларуску. З каровамі і конямі, з трактарам і плугам не абавязкова гаварыць на мове культуры і навукі, на мове камп'ютэра і радыётэхнікі, а галоўнае — на мове начальства. Такая — сацыяльная механіка праблемы, шаноўныя, калі ўжо вы любіце на першы план ставіць сацыяльнае.

Вось і ўсё! На завяршэнне магу дадаць толькі наступнае, — паколькі павагу ў свеце, як бачу, вам усё-такі хочацца мець. Пакуль у вас, панове, будуць такія нялюдскія, такія пахабныя, такія цынічныя адносіны да мовы свайго народа — ніколі і нідзе на гэтай планеце не будуць вас паважаць і з вамі лічыцца, бо будуць на вас глядзець, як на дзікуноў і манкуртаў, як на нікчэмных халуёў і запраданцаў, у якіх няма элементарнага ўяўлення пра інтэлігентнасць і культуру, няма ні каплі пачуцця нацыянальнай годнасці. І можаце сабе і надалей, колькі ўлезе, крычаць пра суверэнітэт "нашай дзяржавы", можаце і далей надзяваць прыгожа размаляваныя маскі законаабаронцаў і праваахоўнікаў, — усё гэта будзе ўспрымацца ў цэлым свеце як непрыстойная цынічная балбатня і не разлічанае на прастакоў вульгарнае сцэнічнае "дзейства".

Ах, панове, панове! Таварышы, таварышы! Столькі ездзіць па свеце, у тым ліку па славянскім, і так і не бачыць, як жывуць і пачуваюцца на сваёй зямлі людзі, і такімі сляпымі вяртацца дадому!..

### "Не лічыцца з воляй бацькоў мы не можам..."

Так гучыць адказ высокага начальства на пытанне радавых грамадзян, чаму ў Беларусі за апошнія тры гады рэзка скараціліся беларускія школы і беларускія першыя класы. "Бацькі не хочуць! Бацькі выбіраюць школы з рускай мовай навучання, а гэта — іх законнае права, іх воля. Не прымушаць жа іх рабіць насуперак сваёй волі, сваім жаданням! У нас жа — дэмакратыя, жывем паводле законаў, паводле канстытуцыі. Ці вы хочаце, каб мы насаджалі беларускую мову гвалтам, "как это уже было недавно"? Дык не дачакаецеся, спадары нацыяналісты, і не спадзявайцеся!.."

Тое, што беларускае начальства ў сваёй моўнай палітыцы даходзіць да крайніх межаў цынізму, у свеце ўжо нікога не здзіўляе. Не здзіўляемся і мы, ведаючы, адкуль ён, гэты цынізм, ідзе, чым жывіцца і чаму так пачварна разрастаецца. Час здзіўленняў мінуў. Але ўвесь народ, усе дзесяць мільёнаў жыхароў Беларусі цынікамі стаць не могуць. У большыні сваёй людзі хочуць жыць сумленна. Для іх і трэба гаварыць праўду.

Дык чаму ў нас, у Беларусі, бацькі школьнікаў мовай навучання сваіх дзяцей выбіраюць рускую? Відавочна, таму, што для беларускай мовы не бачаць у жыцці перспектывы, што іх дзецям яна практычна нідзе не спатрэбіцца. Таму, што сама жыццёвая рэальнасць, усё тое, што ў дзяржаве і з дзяржавай адбываецца, дае ім зразумець: Беларусі як незалежнай дзяржавы не будзе, замест яе будзе "северо-западный край" ці шэсць новых губерняў Расіі. А гэта значыць, што беларуская мова ніколі па сутнасці дзяржаўнай не стане, ніколі не прыйдзе на завод, ва ўстанову, у навуку і г.д. Для чаго ж яе вывучаць, дзеля чаго ведаць? Калі б было не так, калі б кіраўніцтва рэспублікі было насамрэч зацікаўлена ў развіцці і ўмацаванні суверэнітэту Беларусі, яно б у першую чаргу клапацілася пра стан беларускай мовы ў сваім уласным доме, пра яе інтэнсіўнае пашырэнне ў грамадскім ужытку, — як гэта было ў свой час ва ўсіх краінах свету, што вызваляліся ад чужой апекі і станавіліся незалежнымі, як гэта ёсць сёння ў дзяржавах Балтыі і Закаўказзя, на Украіне і ў Казахстане. Калі б было не так — людзям бы кожны дзень гаварылася зверху: вучыце сваіх дзяцей беларускай мове, бо як жа яны без яе будуць тут жыць і працаваць? Ды і прыклад бы ўсяму народу падаваўся зверху.

Вось з такіх меркаванняў бацькі, няйнакш як змірыўшыся з праклятай доляй, і пасылаюць сваіх малых у рускія школы.

Не бацькі — дзяржава павінна вырашаць такія пытанні, як мова навучання і выхавання ў школах. Дзяржава і толькі дзяржава! Калі, зразумела, яна ёсць і намерана заставацца дзяржавай надалей. Дзяржава павінна думаць і клапаціцца аб тым, каб яе грамадзяне маглі свабодна спраўляцца з вытворчымі і іншымі грамадскімі абавязкамі, каб няведанне мовы не стала перашкодай для гэтага. І ў гэтым сэнсе дзяржава мусіць быць паслядоўнай і, калі хочаце, строгай. Пры ўмове, паўтараю, што яна сапраўды — дзяржава. Не ліпавая, не папяровая, не прывідная, а самая што ні ёсць сапраўдная, суверэнная, незалежная дзяржава, у якой усё вырашаецца па-дзяржаўнаму самастойна і з пачуццём нацыянальнай годнасці.

### Дык гэта ў вас ад любові і павагі да "другой Радзімы"?

Курс на задушэнне нацыянальнага беларускага адраджэння забяспечаны, так бы мовіць, юрыдычна, а менавіта: рэферэндумам 1995 года, эрзац-канстытуцыяй 1996 года, новай рэдакцыяй Закона аб мовах (1998) і некаторымі іншымі нібыта дзяржаўнымі актамі. Кажу "нібыта дзяржаўнымі", бо на справе, па сутнасці, гэтыя акты ёсць антыдзяржаўныя, антынацыянальныя, здрадніцка-калабаранцкія, таму што дзяржава, калі яна дзяржава, а не фікцыя, не можа праводзіць у жыццё такую ж моўную палітыку, якую праводзілі ў стагоддзях заклятыя ворагі беларушчыны. Калі за гэты курс галасавалі і цяпер яго падтрымліваюць малапісьменны дзядзька Уладзька і непісьменная бабка Агапка з "электарату" — ну што можна ў такім разе сказаць? Хіба што: "Даруй ім, Госпадзе! Не гатовыя яны да разумення волі Тваёй. Пачуццё нацыянальнай ганьбы ім незнаёма гэтак жа, як і немаўлятам у калысцы". Але калі за гэта галасуе настаўніца ды яшчэ з ганаровым званнем, — тут ужо проста рукой не махнеш. З высокаадукаваным і высокамаральным таварышам (настаўніца ж!) трэба — паколькі пытанне звышпрынцыповае — ці пагаджацца, ці спрачацца. Спрачацца з надзеяй, што можа ўсё-такі ўдасца дастукацца да яе душы і сэрца, — чалавек жа ўсё-такі не з апошніх, не якая-небудзь там цёмная бутэлька піўная, ну яна то павінна адрозніваць, што для нармальнага грамадзяніна ёсць годнасць і гонар, а што — ганьба і сорам. Аднак жа, відаць, не адрознівае, калі хапаецца за пяро і піша не ў абарону справядлівасці, а, па сутнасці, у абарону і апраўданне таго працэсу задушэння беларускай мовы ў Беларусі, які з кожным днём набывае ўсё большы размах.

Шаноўная пані асветніца, выдатніца народнай адукацыі! Калі Вам так добра тут, на зямлі Купалы і Коласа жывецца, што нават (цытую Ваш артыкул) "считаете Беларусь второй родиной и не можете не любить и не уважать эту землю, ее народ, язык", — то скажыце, калі ласка, чаму ў старажытным беларускім горадзе, куды Вы 35 гадоў назад прыехалі з Урала працаваць, не стала ніводнай беларускай школы, нават ніводнага класа, ні паўкласа, ні чвэрці класа? Толькі прашу Вас: не трэба ніякіх тэорый, ніякіх спасылак на волю бацькоў, на асаблівасці гісторыі Беларусі, на "агульныя старажытныя карані", ніякіх агаворак наконт двух стагоддзяў супольнага жыцця ў адзінай дзяржаве. Адкажыце, паклаўшы руку на сэрца і помнячы пра Бога: чаму ў старажытным беларускім горадзе не засталося ніводнай школы на мове народа, які Вы "любите и уважаете"? Чаму ва ўсіх гарадах краіны і нават ва ўсіх гарадскіх пасёлках так рэдка сёння можна пачуць мову, якую Вы "не можете не любить и не уважать"? Прабачце мне, шаноўная, але — як жа звесці канцы з канцамі? Як звязаць Вашу "любовь и уважение" з Вашай поўнай абыякавасцю да таго, што на Вашых вачах гіне мова 10-мільённага еўрапейскага народа, для якога яна, мова — гэткі ж Божы дар, як руская для рускіх, польская для палякаў, фінская для фінаў і г.д., і г.д., і г.д.? Што ж гэта, выбачайце, за такая дзіўная любоў, якая дазваляе Вам спакойна глядзець на дыскрымінацыю, праследаванне і ўмярцвенне прадмета Вашай любові? Ці, можа, аслепленыя ідэяй "славянскай саборнасці", Вы не бачыце гэтага? Можа, станеце даказваць, што гэтага няма наогул, што беларуская мова скрозь і ўсюды жыве і квітнее? Што кожны, хто хоча, можа вучыцца на ёй у тэхнікумах і універсітэтах, весці на ёй справаводства ў дзяржаўных установах і на прадпрыемствах, карыстацца ў арміі ёю?

Адкажыце, яшчэ раз прашу, з усёй шчырасцю: гэта нармальна, гэта справядліва, што беларускі народ на сваёй роднай зямлі аказаўся пазбаўлены магчымасці арганізоўваць сваё жыццё на сваёй уласнай мове — як усе добрыя людзі ў свеце? Што ні ў адной сферы грамадскага жыцця, за выключэннем мастацкай літаратуры, ужо не гучыць беларускае слова — гэта нармальна? Гэта так і трэба? Гэта па-чалавечы і па-боску? Каб Вам было лягчэй зразумець наш беларускі боль і клопат — давайце на хвіліну ўявім адваротнае: уявім, што на Вашым родным Урале, адкуль Вы прыехалі жыць у Беларусь, няма ніводнай рускай школы, а ўсе — на розных іншых мовах. Не ўяўляеце? Кажаце, не можа быць такога! Я згодзен з Вамі: такога сапраўды быць не можа. Гэта нейкая пачварная фантастыка, гэта абсурд!

Вось бачыце! На Урале (у Сібіры, на Кубані, на Далёкім Усходзе і г.д.) такога быць не можа. Як гэта, каб Расія ды без рускай мовы? А Беларусь? А Беларусь без беларускай мовы — можа?.. Што маўчыце? Што не адказваеце? Можа ці не можа? Не ведаеце, як быць, што адказаць? Сказаць "можа" — нестае духу, надта ж цынічна. Сказаць "не можа" нестае... Шаноўная настаўніца, сейбітка "разумнага, добрага, вечнага", чаго Вам нестае, каб голасна сказаць: "Не можа!" Каб сказаць: "Людзі! Суайчыннікі! Суродзічы! Мы ўсе вельмі вінаватыя перад беларускім народам. Мы павінны пакаяцца, папрасіць прабачэння за сябе і за ўсіх сваіх папярэднікаў і дапамагчы яму адрадзіцца ў поўным сэнсе гэтага слова: адрадзіць сваю дзяржаўнасць, сваю самабытную нацыянальную культуру, сваю гістарычную памяць, сваю мову".

## АПОШНІЯ НАВІНЫ

**Больш як 2000 дэманстрантаў сабралася 24 лістапада ў Менску, каб апратэставаць рэфэрэндум з 1996 году, на якім Лукашэка атрымаў дыктатарскія паўнамоцтвы. Гэты рэфэрэндум, паводле меркаваньня апазыцыі і міжнародных арганізацыяў па правох чалавека, быў моцна сфальшаваны і адурманены.**

**Дэманстранты таксама патрэбавалі зьменшыць паліцыйскі апарат і бюракратыю, вярнуцца да Канстытуцыі 1994 году, правесьці прэзыдэнцкія выбары ў наступным годзе ды наладзіць добрыя адносіны з Захадам. "Сёньняшні рэжым давёў да пустых полак у магазынах і паказаў, што Лукашэнка ня можа кіраваць дзяржавай" — сказаў спадар Мікола Статкевіч, лідэр Грамады, сацыял дэмакратычнай партыі.**

**ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «Беларускага Дайджэсту» чакае Вашае Дапамогі!..**

*****************

**Дапамажыце закончыць будову Беларускага Музэю ў Гайнаўцы, Беласточчына...**



## Адкрыты ліст да а. Пётры Гушчы

Дарагі а. Пётра Гушча! Віншую Вас і цешуся, што Вы ўжо на волі, гэта значыць фізычна вольны, але духова надалей у няволі суровай таталітарнай сыстэмы, асабліва варожай для тых, каму Беларусь і яе свабода так блізкія сэрцу як Вам і вашым аднадумцам.

Расейская Праваслаўная царква была і ёсьць асновай расейскага нацыяналізму і імпэрыялізму. Відаць мітрапаліт Філарэт, падобна як і А. Лукашэнка пераконаны, што беларуская мова бедная і мала зразумелая для Бога. Цікава на якой мове моляцца ў Афрыцы ці Новай Гвінэі, і ці Бог іх разумее.

Калі ў 1942 г. аднавілася Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква, Масква адразу аб'явіла яе некананічнай. Пасьля выезду з Беларусі на эміграцыю епіскапы, а іх было пяць, хутка далучыліся да Расейскай зарубежнай царквы і агаласілі БАПЦ некананічнай. Я не спэцыяліст па царкоўных канонах, але добра памятаю з Бібліі словы Хрыста: "Дзе двух ці трох зьбіраюцца ў імя Маё, там Я з вамі". І гэта ёсьць царква. Kаноны стварылі людзі. Я лічу, што мы ў вольным сьвеце павінны падтрымаць Вашыя намаганьні стварэньня Беларускай Нацыянальнай Царквы. Я заклікаю нашых епіскапаў і вернікаў дапамагчы Вам уВашай цяжкай працы.

Заклікаю стварыць камітэт дапамогі для Беларускай Нацыянальнай Царквы ў Беларусі.

Барыс Рагуля.





## СЁЕ-ТОЕ...

У Беластоку адбыўся пленум ГП БГКТ. Апошнім часам гэтая старая беларуская арганізацыя сталася рупарам лукашэнкаўскае русіфікатарскае палітыкі ў Польшчы. Старшыня спадар Ян Сычэўскі скардзіўся на пленуме на недахоп фінансаў, а некаторыя ўдзельнікі сталі ў абарону законна выбранага прэзыдэнта Беларусі і яго дыктатарскага рэжыму. Нядарам на пленуме прысутнічалі лукашэнкаўскія "дыпляматы"... Яны за працай гэтай арганізацыі сочаць вельмі ўважліва і пасьлядоўна. Але прыглядаюцца да БГКТ ня толькі "саўкі" з Беларусі...

***

**У гэтым месяцы міжбанкаўскі курс беларускага рубля скочыў з 250.000 на 300.000 за 1 даляр ЗША. (Афіцыйны лукашэнкаўскі курс — 58.600 за даляра). Словам, так званы беларускі эканамічны цуд прадаўжаецца...**

***

**Акцыя збору ахвяраў на заканчэньне будовы Беларускага Музэю ў Гайнаўцы на Беласточчыне праходзіць памысна. На такую складаную дзейнасьць патрэбен час... Аднак справа ўпэўнена рухаецца наперад.**

**Просім усіх нашых прыхільнікаў, хто не ахоплены зборнымі лістамі, асабіста перасланць свае ахвяры на гэты фонд. Ці ёсьць цяжкасьці? Ёсьць, як і ў кожнай іншай працы, нават курсуюць розныя плёткі... Але на гэта ня трэба зьвяртаць увагі. Справа дапамогі Музэю — высокародная і патрыятычная...**

## Сярэдняя наяўная заработная плата рабочых і служачых у Беларусі ў верасні гэтага года знізілася з 59 да 45 доляраў ЗША

У верасні гэтага года прадоўжылася прыкметнае зніжэнне сярэдняй наяўнай заработнай платы рабочых і служачых Беларусі ў доларавым вылічэнні. Калі ў чэрвені зарплата была эквівалентная 74 доларам па "чорным" наяўным курсе, у ліпені — 73, у жніўні — 59, то ў верасні — 45 доларам, што на 24 працэнты менш за паказчык папярэдняга месяца.

Падзенне зарплаты адбылося з-за 40-працэнтнага росту кошту долара на "чорным" рынку ў верасні пры росце заработнай платы за гэты перыяд толькі на 5,4 працэнта (па даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, сярэдняя наяўная зарплата рабочых і служачых у верасні склала 4.933.385 рублёў супраць 4.682.736 рублёў у жніўні).

Са студзеня па верасень гэтага года рэальная зарплата паменшылася амаль у два разы (у снежні 1997 года яна раўнялася 88 доларам).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Сьвяткаваньне 40-е гадавіны заснаваньня Беларускага Праваслаўнага прыходу сьв. Божай Маці Жыровіцкай у Сток-он-Трэнт, Англія.

**Ужо другі год як айцец Аляксандар Сідаровіч абслугоўвае праваслаўны прыход Сьв. Еўфрасіні** Полацкай у Лондане, **але сам жыве** ў Сток-он-Трэнт, даволі далёка. **Прыязджае ён** у Лондан адзін раз у месяц, **бо мае свой прыход** у Сток-он-Трэнт і **абслугоўвае яшчэ прыход** у Вольвэргамптон.

**Як настаяцель гэтых трох беларускіх прыходаў а. Аляксандар запрасіў лонданцаў і вольвэргамптоўцаў наведаць ягоны прыход у Сток-он-Трэнт у нядзелю 10га траўня гэтага году.**

**У гэтую нядзелю беларусы Лондану, Вольвэргамптону і нават Манчэстэру прыехалі ў Сток-он-Трэнт нанятымі аўтабусамі. У англіканскай царкве адбылася ўрачыстая багаслужба ў якой прымалі ўдзел: а. Міхаіл Іскрыцкі і англічанін а. Крыстофэр Роджэрс /абодвы з Манчэстэр/ і а. Аляксандар. У часе багаслужбы сьпяваў хор з Лондану пад кіраўніцтвам М. Галубінкі.**

**Пасьля сьв. літургіі ў царкоўнай залі адбылося прыняцьцё для прыезджых гасьцей. І тут трэба прызнаць, што прыняцьцё было зладжана сапраўды добра, багата і густоўна дзякуючы дачцы а. Аляксандра, Элеаноры. Седзячы за сталамі гасьцей і гаспадароў аб'ядноўвалі яшчэ і беларускія песьні, выступленьні прысутных, а сярод іх вітаў праваслаўных беларусаў і англіканскі сьвятар Браян Вільям, які згадаў пра залажэньне праваслаўнага прыходу ў ягонай царкве.**

Праваслаўны прыход у Сток-он-Трэнт заложаны быў бацькам Фёдарам і сынам Аляксандрам Сідаровічамі ў 1958 годзе. Аб гэтым факце пісала нават мясцовая ангельская газэта. Жыцьцё Фёдара Сідаровіча было зьвязана з царквою яшчэ на Бацькаўшчыне, дзе ён быў царкоўным старастам.

Бяручы агульна, спатканьне праваслаўных беларусаў у Сток-он-Трэнт, аказалася карысным і пажаданым. Чуліся галасы некаторых прысутных, каб такія спатканьні праводзіліся часьцей. На іх спатыкаюцца знаёмыя і незнаёмыя беларусы, якія на Бацькаўшчыне былі недалёкімі суседзямі. У сяброўскай атмасфэры час прайшоў хутка... і трэба было раз'язджацца. Засталіся толькі прыемныя ўспаміны.

Ю. В-скі.

*Леанід ЛЫЧ,*
*доктар гістарычных навук, прафесар*



# Ганебную справу расійскага Мураўёва-вешальніка працягвае сённяшняя беларуская ўлада

Канец 80-х гадоў. Узнікла Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, якое ўзначаліў адзін з самых папулярных ў народзе паэтаў Ніл Гілевіч. Літаральна праз некалькі месяцаў, у студзені 1990 года, на чатырнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР 11-га склікання прымаецца вялікай гістарычнай важнасці дзяржаўны акт — закон "Аб мовах у Беларускай ССР".

Глыбокае разуменне ўсёй складанасці моўнай сітуацыі на Беларусі на рубяжы 80—90-х гадоў, шчырае жаданне тагачасных дэпутатаў не даць загінуць, адысці ў нябыт роднай мове яе карэннага насельніцтва — усё гэта прывяло да таго, што ў закон "Аб мовах..." былі ўнесены такія артыкулы, якія мелі лёсавызначальнае значэнне для беларускага народа. У іх ліку і артыкул №2, які пачынаецца са слоў: "У адпаведнасці з Канстытуцыяй (Асноўным Законам) Беларускай ССР дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова.

Беларуская ССР забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця".

Прыняццем такога артыкула аб роднай мове беларусаў наша рэспубліка па частцы моўнага заканадаўства рашуча наблізілася да цывілізаваных дзяржаў свету, у якіх толькі так, а не інакш будуецца палітыка ў дачыненні да мовы тытульнай нацыі. Да прыведзенага вышэй артыкула з закона "Аб мовах..." не мог бы выставіць аніякіх прэтэнзій ніводзін сумленны юрыст з сусветным імем.

Але беларускія дэпутаты не забыліся і пра рускую мову, сродкамі якой дзяржаўныя асімілятары царскай Расіі, а пазней ідэалагічныя службы камуністычнай партыі на працягу больш як двух стагоддзяў турылі беларускую мову з яе гістарычнай тэрыторыі. У законе ж "Аб мовах у Беларускай ССР" было запісана так: "Беларуская ССР забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай, як мовай міжнацыянальных зносін народаў СССР". Здавалася б, больш цывілізаванага падыходу да вызначэння статусу рускай мовы ўжо і быць не можа.

Заўважу, на той жа сесіі Вярхоўнага Савета БССР дэпутаты вызвалілі наш народ і ад такой умела навязанай яму чужымі і сваёй гадоўлі асімілятарамі крайне небяспечнай практыкі выбару бацькамі мовы навучання дзяцей у агульнаадукацыйных школах. Цяпер і Беларусь прызнала, што мовай усіх тыпаў навучальных устаноў павінна з'яўляцца пераважна дзяржаўная мова. Праўда, шматгадовае засілле рускай мовы не давала магчымасці адразу і цалкам выключыць апошнюю з навучальна-выхаваўчага працэсу. На ўсё патрэбен час. Таму ў самым галоўным артыкуле аб мове ў сферы адукацыі было запісана: "Навучанне і выхаванне ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах Беларускай ССР ажыццяўляецца на беларускай мове, а па некаторых спецыяльнасцях і прафесіях — на беларускай, рускай або іншай мове". Заўважу, што такія ўступкі іншым мовам адсутнічаюць у моўнай практыцы ўсіх унітарных дзяржаў Еўропы, да якіх належыць і Беларусь. Аднак апошняя не пайшла на падобнае ўшчамленне сацыяльнага статусу рускай мовы, маючы надзеі, што і ў такой сітуацыі будзе забяспечаны прыярытэт беларускай мовы ў навучальных установах.

Рашучы крок да збліжэння Беларусі з цывілізаванымі краінамі Еўропы па пытаннях моўнага заканадаўства забяспечваўся і многімі іншымі артыкуламі закона "Аб мовах у Беларускай ССР". Заставалася толькі няўхільна праводзіць яго на практыцы. На дзіва многім асімілятарам, народ чакаў, быў гатовым да самай карэннай перабудовы свайго знявечанага культурна-моўнага жыцця, верыў, што нарэшце прыйшоў час выратавання яго роднага слова. Але і палітыкі, і інтэлектуалы, якія заставаліся на пазіцыях беларускай нацыянальнай ідэі, недаравальна марудзілі, не паспявалі за тым, што рабілася ў моўным жыцці, прычым пры даволі актыўным удзеле самога народа. Некаторыя з іх да канца не разумелі ўсёй важнасці адбудовы жыцця суверэннай Беларусі на ўласных нацыянальных і найперш культурна-моўных традыцыях. Таптаўся на месцы, блукаў ўпоцемках спікер Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. Ён яшчэ і ў час правядзення ў кастрычніку 1995 года чацвёртага з'езда Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, гэта значыць пасля таго, як майскі рэферэндум таго ж года зноў падрыхтаваў глебу для бесканкурэнтнага панавання рускай мовы ў нашай краіне, заяўляў з трыбуны: "Важна не мова навучання, а сутнасць навучання". **А гэта ж чалавек, які займаў вельмі высокую дзяржаўную пасаду з не менш высокімі навуковымі ступенямі і званнямі, наведаў многія краіны Еўропы і бачыў, што ў кожнай з іх навучанне вядзецца не на якой-небудзь чужой, а на роднай мове іх тытульных нацый. А вось Беларусі, відаць, як самай інтэрнацыянальнай, трэба рабіць нейкае выключэнне. Ох жа гэтая беларуская дзіцячая наіўнасць і святая прастата! Колькі яны непапраўнай бяды прынеслі ўласнаму народу!**

Нерашучасць і неразуменне многімі дзяржаўнымі дзеячамі і інтэлектуаламі ролі беларускай мовы ў нацыянальна-культурным адраджэнні спаўна і без прамаруджвання выкарысталі проста "на выдатна" іх безнадзейна зрусіфікаваныя калегі. Ім без асаблівай цяжкасці ўдалося ў час майскага (1995 г.) рэферэндуму схіліць народ, які яшчэ не паспеў як след уцягнуцца ў сваю родную моўную стыхію, даць згоду абвясціць юрыдычную роўнасць рускай мовы з беларускай, што практычна азначала поўнае ігнараванне прагрэсіўнага ва ўсіх адносінах закона "Аб мовах у Беларускай ССР". Яго нацыянальныя асновы ў такой жа меры былі падарваны і прынятай у лістападзе 1996 года Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Ізноў найлепшыя пласты беларускага народа, што яшчэ спавядаюць нацыянальныя ідэалы і жывуць паводле яго культурна-моўных традыцый, засталіся ля разбітых начовак.

Новым чарговым — а можа ўжо і апошнім — зруйнавальным ударам па родным слове беларусаў стаў падпісаны прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкам 13 ліпеня 1998 года (і дату ж выбралі!) Закон Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". Натуральна, распрацоўку яго ажыццяўляла, па ўсім відаць, вельмі "кваліфікаваная" брыгада вучоных-філолагаў і юрыстаў. Яны падрыхтавалі такі варыянт закона, у кожным артыкуле якога абавязкова натрапіш на непераадольную перашкоду для ўвядзення беларускай мовы ў якую-небудзь сферу нашага жыцця. Часцей за ўсё ў якасці такой перашкоды служыць — аж цяжка паверыць! — злучнік *"або"*. Упершыню ён сустракаецца ў артыкуле пад нумарам 7, якім рэгулюецца мова дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, устаноў, грамадскіх арганізацый. **А рэгулюецца яна ў гэтых сферах так: "Акты дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь прымаюцца і публікуюцца на беларускай (або) рускай мовах". Сёння ў нас, як вядома, каля 99% усіх дзяржаўных актаў друкуецца на рускай мове. Калі б якая-небудзь беларуская нацыянальна-патрыятычная арганізацыя ці адданая нацыянальнай ідэі асоба запатрабуе ад дзяржаўнага кіраўніка любога рангу перавесці ў падначаленай яму сферы службовае справаводства з рускай мовы на беларускую, ён ткне кожнага носам у сёмы артыкул Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", і яму, бедалагу, і крыць будзе няма чым.**

Як мур, паўстае злучнік *"або"* і перад тымі, хто захацеў бы запатрабаваць ад кіраўнікоў недзяржаўных органаў ці нават якіх-небудзь грамадскіх арганізацый весці дакументацыю па-беларуску. Дзякуючы злучніку *"або"* вельмі лёгка не даць аніякага доступу беларускай мове ў суды, натарыяльныя канторы, пракуратуру, ва ўзброеныя сілы, словам, спрэс, дзе толькі нельга абысціся без складання службовых папер. Больш таго, датычыць гэтае правіла культуры, мову якой рэгулюе артыкул №26. Пачынаецца ён словамі: "У Рэспубліцы Беларусь мовамі ў сферы культуры з'яўляецца беларуская і (або) руская мова". А цяпер, дарагі чытач, паспрабуй змяніць у той ці іншай установе культуры рускую мову на беларускую, калі такой перамены не жадае яе кіраўніцтва. Нічога не атрымаецца. Яна будзе спакойна працаваць у адрыве ад культурна-моўных каштоўнасцей беларускага народа, хаваючыся за адпаведны артыкул закона. А вось закон "Аб мовах у Беларускай ССР" ад 26 студзеня 1990 г. не даваў магчымасці ўстановам культуры праводзіць асіміляцыю беларускай нацыі, бо ў яго артыкуле №28 было запісана: "У Беларускай ССР мовай у сферы культуры з'яўляецца беларуская мова".

Такіх абмежаванняў для яе можна адшукаць процьму, параўноўваючы паміж сабою нарматыўныя акты аб мове, прынятыя 26 студзеня 1990 г. і 13 ліпеня 1998 г. Таму цяперашнія змяненні і дапаўненні да заканадаўства аб мовах не пакідаюць аніякіх перспектыў для беларускай мовы. Наадварот, злучнік *"або"* яе цалкам даканае. Практычна ва ўсіх выпадках ён накладае на беларускую мову права "veto", што ў перакладзе з латыні абазначае "забараняю".

Не ведаю, як у каго, а ў мяне пасля ўважлівага азнаям-

лення са змяненнямі і дапаўненнямі ў закон “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” сфарміравалася цвёрдая ўпэўненасць, што аўтарамі іх зусім не ставілася мэта выратаваць беларускую мову ад немінучага ў сённяшніх варунках выміраньня. Хутчэй наадварот, змяненні і дапаўненні свядома ўнесены з адной-адзінай мэтай — забяспечыць у нашым краі поўную перамогу рускай мовы за кошт выцяснення з усіх сфер дзейнасці чалавека беларускай мовы, што ўжо і раней вельмі выразна назіралася. Парадаксальна, сама дзяржава распрацоўвае і прымае законы, скіраваныя на глабальнае выкараненне з грамадскага жыцця роднай мовы сваёй тытульнай нацыі! Такое назіралася калісьці толькі ў калоніях, але яно было справай рук заваёўнікаў. Няўжо ж і наша краіна, хоць і называецца суверэннай, кім-небудзь заваяваная?

Зробленыя змяненні і дапаўненні да Закону аб мовах — гэта відавочны адыход ад крайне хісткага беларуска-рускага двухмоўя да рускага аднамоўя. Урад рэспублікі смела стаў на такі антынацыянальны шлях, бо выдатна разумеў, што дашчэнту зрусіфікаваны ўсёй папярэдняй дзяржаўнай палітыкай беларускі народ не ўздыме голасу ў абарону роднага слова.

Нібыта нейкія патаемныя сілы адкінулі суверэнную Рэспубліку Беларусь на сто і больш гадоў назад, у сумнавядомыя часы самай ашалелай русіфікацыі, калі чужынцы з зайздроснай напорыстасцю перараблялі наш край на маскоўскі капыл. Прысланы на пасаду папячыцеля Віленскай навучальнай акругі А.Шырынскі-Шыхматаў галоўную задачу настаўніцтва на беларускіх землях бачыў у тым, каб тут “уваскрэсіць старажытную, карэнную рускую народнасць”. У запісцы на імя міністра асветы Расіі Е.Пуцяціна (верасень 1861 г.) ён усяляк імкнуўся абгрунтаваць, што ў Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях “народныя вучылішчы... павінны быць чыста рускімі”. Хтосьці з сучасных кіраўнікоў народнай адукацыі суверэннай Рэспублікі Беларусь з гонарам можа заявіць, што гэта задача практычна выканана, прычым не толькі ў дачыненні да гэтага самага нізкага тыпу навучальных установаў, але і самых высокіх.

Яшчэ далей за А.Шырынскага-Шыхматава пайшоў яго пераемнік Іван Карнілаў. Усю сваю дзейнасць ён скіраваў на тое, каб забяспечыць “канчатковае ўз’яднанне краю (беларускага. — Л.Л.) з усёй Расіяй”, і лічыў, што гэта “трэба будзе здзейсніць не рускай зброі, але рускай цывілізуючай сіле”. Яе ж ён бачыў у пабудаванай на рускай аснове сістэмы адукацыі, галоўнымі прадметамі якой былі руская мова і літаратура, гісторыя Расіі. Рускія культурнамоўныя традыцыі, далёкі ад аб’ектыўнасці погляд на гістарычнае мінулае рускага і беларускага народаў з’яўляюцца пануючымі і ў народнай адукацыі сучаснай Беларусі.

Засталося яшчэ трохі папнуцца, і наша дзяржава з поспехам рэалізуе запаветную мару галоўнага начальніка Паўночна-Заходняга краю (такую назву для Беларусі прыдумаў расійскі цар Мікалай I) Міхаіла Мураўёва, якога народ за жорсткую расправу з паўстанцамі Кастуся Каліноўскага ахрысціў мянушкай “Вешальнік”. А такой марай у яго было выкараненне з жыцця беларусаў усяго таго, што нагадвала б пра іх этнакультурную адметнасць. Ён вельмі клапаціўся пра тое, каб усе мясцовыя чыноўнікі зыходзілі з таго, “што край Паўночна-Заходні заўжды быў і ёсць рускі”. І тут сёння мы можам шмат чым пахваліцца.

Мой нават далёка не поўны, фрагментарны аналіз унесеных улетку гэтага года змяненняў і дапаўненняў у моўнае заканадаўства дае дастаткова падстаў сцвярджаць, што калі закон 1990 г. “Аб мовах у Беларускай ССР” быў выразна скіраваны на рэанімацыю беларускага народа праз адраджэнне і павышэнне сацыяльнай ролі яго роднага слова, дык усе наступныя нарматыўныя акты дзяржавы ў галіне мовы, у тым ліку і сёлетні, мелі мэтай далейшую, канчатковую асіміляцыю людзей шляхам забеспячэння поўнага панавання рускай мовы ва ўсіх сферах жыцця і асабліва ў адукацыі, якая дзякуючы гэтаму традыцыйна выконвала і выконвае ў нас ролю разбуральніка нацыянальна-духоўных асноў карэннага насельніцтва Беларусі.



## Адказ Сакратару Нацыянальнага Алімпійскага Камітэту Беларусі

Паважаны Спадар А. Іваноў! ...Ваш зварот да беларускіх суполак у Аўстраліі Выканаўчы камітэт Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі абмяркаваў і, беручы пад увагу важнасьць... рэпрэзэнтацыі Рэспублікі Беларусь на „Алімпіядзе – 2000“, разаслаў Ваш зварот да ўсіх беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі на абмеркаваньне й каб яны як найхутчэй далі свой адказ на Вашую прапанову.

**Агульны выснаў, як і трэба было спадзявацца, атрымаўся адназначны. Беларусы Аўстраліі стаяць на прынцыпе: рэпрэзэнтацыя Рэспублікі Беларусь павінная быць як незалежнай сувэрэннай дзяржавы з усімі нацыянальнымі прыкметамі й нацыянальнай сымболікай. Гэта значыць: пад бел-чырвона-белым сьцягам, гэрбам... „Пагоня“ і з належным нацыянальнай годнасьці беларусаў гімнам. Калі Беларусь верне ўсе гэтыя годнасьці, мы, беларусы Аўстраліі й беларусы ўсяго сьвету, прыкладзём усе нашыя магчымасьці, каб дапамагчы нашым алімпійскім спартоўцам заняць пачэснае мейсца сярод найлепшых спартоўцаў сьвету.**

**Вашая заўвага наконт таго, што „украінцы, якія жывуць у Аўстраліі, дзейнічаюць у гэтай справе для сваіх алімпійцаў“, зьяўляецца якраз адваротнай, што датычыць беларусаў. Украінцы на сёняшні дзень маюць сваю сапраўдную ўкраінскую дзяржаву, дзе адзінай дзяржаўнай мовай зьяўляецца ўкраінская мова, маюць сваю гістарычную сымболіку й свой нацыянальны гімн, а таксама сваю Вярхоўную Раду: ім ёсьць чым ганарыцца й каму дапамагаць, а ў нас, у беларусаў, усяго гэтага няма. На вялікі жаль, Рэспубліка Беларусь знаходзіцца ва ўладзе здраднікаў, якія не валодаюць нават самымі элемэнтарнымі якасьцямі беларуса, такімі, як беларуская мова, і таму мы катэгарычна адмаўляемся прымаць які-небудзь удзел у гэтай алімпіядзе й дапамагаць каманьдзе, якая выступае як беларуская, але пад варожай нам сымболікай. Гэта сымболіка не беларуская й ня праўная, мы ніколі яе не прызнавалі, не прызнаем і ў будучыні не прызнаем, бо гэта ёсьць савецкая камуністычная сымболіка, гвалтам нам накінутая чужынцамі.**

Выбачайце нам, Спадар Анатоль Іваноў, за такі адмоўны адказ, але гэта зьяўляецца нашым пратэстам супраць выступу беларускай каманды на „Алімпіядзе – 2000“ пад камуністычнай сымболікай... Спадзяемся, што перакладчыка зь беларускай мовы на рускую Вы там, у Рэспубліцы Беларусь, знойдзеце.

З пашанай. Жыве Беларусь!

*за Выканаўчы камітэт*
*Фэдэральнай рады беларускіх*
*арганізацыяў у Аўстраліі*
*старшыня* **Яўген Груша**

## ЗЯМЛЯ СВЯТАЯ, ЯНА НАША МАЦІ

На тэрыторыі Беларусі шмат мясцін, рытуальнымі цэнтрамі якіх з'яўляюцца рукатворныя курганы. З'ява гэта зусім невыпадковая. Са старажытных часоў курганы былі месцам захавання найбольш знакамітых прадстаўнікоў нашых продкаў, людзей неардынарных ва ўсіх адносінах. Таму часам іх называлі валатоўкамі, бо, у адпаведнасці з легендамі, там былі пахаваны волаты-першапродкі.

У XX стагоддзі на долю нашага народа выпаў цяжкі і пакручасты лёс. Адной з найбольш пакутлівых старонак была Вялікая Айчынная вайна. У пасляваенны час на месцах асабліва жорсткіх баёў былі ўзведзены мемарыяльныя комплексы, сярод якіх вылучаліся ўсё тыя ж курганы. Найбольш знакаміты з іх Курган Славы пад Мінскам. Курган насыпаны рукамі тых, хто вызваляў Беларусь і ўцалеў у тым ліхалецці. Сюды ж была прывезена зямля з тых мясцін, дзе адбыліся ключавыя падзеі той вайны...

Чаму ж сталася так, што менавіта зямля аказалася тым свяшчэнным звёнкам, якое паяднала жывых і загінуўшых, мінулае з днём сённяшнім?

Вытокі такой выключнай пашаны зямлі трэба шукаць у нашай традыцыйнай культуры, у шматлікіх абрадах, звычаях, творах вуснай народнай творчасці.

З сівой даўніны лічылася, што ў аснове стварэння свету былі чатыры найважнейшыя кампаненты: зямля, вада, агонь і паветра. Прычым у адпаведнасці з біблейскімі паданнямі самай першай Бог стварыў зямлю. З таго часу яна і лічыцца самай свяшчэннай часткай навакольнага свету. Аб гэтым яскрава сведчаць шматлікія забароны і прадпісанні паводзін людзей у дачыненні да зямлі: яе нельга біць калом, бізуном, розгай. Некаторыя народныя лекары лічаць: той, хто плюе на зямлю, правакуе цяжкія захворванні органаў дыхання. Зямлю нават нельга калупаць нагой. У манголаў да гэтага часу абутак робяць з закругленым наском, каб, нават спатыкнуўшыся, выпадкова не пачапаць зямлі. А ва ўсіх славянскіх народаў самай моцнай клятвай (ад якой ні пры якіх умовах нельга было адрачыся) лічылася тая, калі чалавек цалаваў, а затым з'ядаў жменьку зямлі.

У адпаведнасці са старажытнымі міфалагічнымі ўяўленнямі, зямля ўспрымалася жывой істотай, якая несла ў сабе жаночы пачатак. Яна апладнялася жыватворным дажджом — увасабленнем мужчынскага пачатку — і давала новы ўраджай. Таму ў каляндарна-абрадавых песнях, у казках і легендах яе называюць не інакш як «маці — сырая зямля».

А як усё жывое, зямля нараджалася вясной, а памірала ўвосень. Гэта акалічнасць стала прычынай узнікнення шэрагу розных рытуальна-абрадавых дзеянняў, якія скіраваны былі на тое, каб, з аднаго боку, паспрыяць спору, урадлівасці зямлі, а з другога — накладвалі на паводзіны чалавека даволі жорсткія маральна-этычныя патрабаванні ў адносінах да яе. Напрыклад, на Масленку рабілі цэлыя снежныя горкі, аблівалі іх вадой, а затым маладыя шлюбныя пары каталіся з іх на санках. Штучны лёдавы пагорак — знак цяжарнасці зямлі, а катанне з іх толькі што абраўшых шлюб маладых мела двухбаковую накіраванасць: вірлівая моладзь імкнулася абудзіць зямлю, а тая ў сваю чаргу павінна была паспрыяць патэнцыі новаспечанай пары. Напрыканцы масленічнага тыдня людзі збіраліся ўсёй вёскай за ваколіцай і спальвалі саламяную Марану — смерць, увасабленне зімы. Затым кожны ўдзельнік абраду браў прыгаршчы попелу, ішоў на сваё жытнёвае поле, рассыпаў па ім попел і затоптваў яго ў снег: няхай адышоўшае ў нябыт прарасце ўлетку новым коласам.

Гэты ж самы сэнс абуджэння зямлі ўкладваўся беларусамі ў абрад велікоднага качання яек. Як правіла, і гэта святочная гульня адбывалася на самым высокім месцы вёскі. Для павелічэння ўрадлівасці зямлі па ўсіх кутках свайго прысядзібнага ўчастка гаспадар утыкаў галінку вярбы, асвечанай у храме на Вербніцу. Своеасаблівым ахвяраваннем ёй быў і такі абрад. Адразу пасля вяртання дадому з велікоднага ўсяночнага богаслужэння гаспадар садзіў за стол усю сям'ю і адбывалася доўгачаканая святочная трапеза, калі можна было разгавецца, удосталь наесціся смажаніны, вяндліны, каўбасы, сыру з маслам. Рэшткі, якія заставаліся на стале (шалупінне яек, косці, кавалачкі хлеба і яйка) бацька нёс на жытнішча і злёгку прысыпаў зямлёй.

Аналагічнае ахвяраванне прыносілася Духу Зямлі і напрыканцы жніва. Некалькі апошніх няжжатых каласоў прыгіналі долу і пакідалі, каб не пакінуць поле «голым» і не забраць яго спорнасці на будучы год.

Мне ўжо даводзілася пісаць пра тое, што стаўленне да зямлі як да новага арганізма сфарміравала ў асяроддзі беларусаў забарону чапаць зямлю ад Пакроваў (часта ад Узвіжання) і да Благавешчання або Радаўніцы. У гэты час нават помнік на магіле нельга было ставіць. Людзі сталага веку звярталі маю ўвагу на такую акалічнасць: калі нехта з блізкіх паміраў у той час, калі зямля «спала» (а трэба было капаць дол), то яна магла «наслаць» голад на гэтую сям'ю на тры наступныя гады.

У сувязі з гэтым неабходна нагадаць яшчэ адзін абрад, які быў вядомы ў асяроддзі паўночных славянскіх плямёнаў і атрымаў назву «заложныя нябожчыкі». Статус самай значнай святыні патрабаваў перад пахаваннем пераапранаць нябожчыка ва ўсё чыстае, белае. Але калі чалавек скончыў жыццё самагубствам, то яго не хавалі, а кідалі ў спецыяльную яму за гарадской мяжой, прыкрывалі ад звяроў галінамі дрэў. І толькі пасля таго, як закончацца асноўныя палявыя работы, «заложных нябожчыкаў» хавалі на Сямік — у чацвер на сёмым пасляпелікодным тыдні. Калі ж гэты звычай парушаўся, то лічылі, што зямля нашле засухі і неўраджай.

У традыцыйнай культуры беларусаў зямля ўспрымалася як родны кут, родная старонка, Радзіма, як месца нашага часовага існавання на гэтым свеце і адначасова як магіла — месца вечнага спачыну. Таму з такой павагай і нашы продкі, і нашы сучаснікі ставяцца да наведвання магілак, карпатлівага шчыравання вакол іх напачатку цыкла сельскагаспадарчых работ і напрыканцы яго. Прычым у пахавальным абрадзе зямля была і застаецца адным з асноўных рытуальных атрыбутаў, які надзяляецца неверагоднымі прароцка-магічнымі здольнасцямі. Напрыклад, апошнім рытуальным дзеяннем развітання з нябожчыкам з'яўляецца трохразовае кіданне жменькі зямлі ў магілу. І сёння беларусы перакананы: калі ў час пахавання нечакана абсыплецца край магілы, то гэта неабвержнае сведчанне таму, што на працягу года з гэтай сям'і пойдзе «на той свет» яшчэ хто-небудзь.

Зямля шырока выкарыстоўваецца ў чорнай і белай магіі. Напрыклад, каб хлопец добра адслужыў у войску і вярнуўся дадому жывым і здаровым, маці пакідала ў хаце адбітак правай нагі на зямлі перад парогам хаты і ўвесь час захоўвала ў чырвоным куце за іконай.

Такім чынам, атрымліваецца, што мы нараджаемся на нашай зямлі, пройдзем па ёй, пакінуўшы выразны след, а праз нейкі час навечна адыдзем у яе мацярынскае ўлонне. У адным з паданняў, запісаных М. Федароўскім, ёсць цудоўныя словы, якія ў паэтычнай форме адлюстроўваюць нашы адносіны да зямлі і бацькоўскую павагу да яе:

«Зямля святая, яна наша маці,
Яна нас жывых корміць,
а па смерці да сябе прыхіляе».

**Янка КРУК,**
**кандыдат філалагічных навук.**

## Васіль БЫКАЎ: Іншыя нацыі апярэдзілі беларусаў на некалькі дзесяцігодзьдзяў

**З вядомым пісьменьнікам гутарыць драматург і журналіст Мікола Матукоўскі**

Мікола Матукоўскі: Васіль Уладзіміравіч, ці помніш ты нашу апошнюю размову, калі я яшчэ працаваў карэспандэнтам газэты "Известия"? Тады мы з табой гаварылі пра развал калісьці магутнай краіны Саветаў і прыйшлі да высновы, што пагадненьне ў Белавежскай Пушчы — не выпадковасьць, не злая воля трох палітыкаў, як гэта стараюцца паказаць артадоксы, а гістарычная заканамернасьць, нават дакладней — гістарычная непазьбежнасьць. Мы тады яшчэ дзівіліся, што так многа людзей так хваравіта, так трагічна ўспрынялі гэтую падзею. Дагэтуль мільёны людзей праклінаюць Ельцына, Краўчука і Шушкевіча за такое "злачынства". Маўляў, каб не сабраліся яны тады ў Белавежскай Пушчы, Савецкі Саюз існаваў-бы дагэтуль.

Васіль Быкаў: Давай адразу дакладна і недвухсэнсоўна вызначым: што ёсьць разбурэньне імпэрыі з гістарычнага пункту погляду — добра гэта ці дрэнна? У свой час усе, нават самыя магутныя імпэрыі, распаліся. Іх часткі так ці інакш самавызначыліся і жывуць сёньня значна лепей, чымсьці мы. Зразумець старых людзей можна, але ці можна апраўдаць іх перажываньні? Бо апрача іх, шчыра кажучы, незайздросная лёсу ёсьць яшчэ лёс нашчадкаў. Іх дзяцей ды ўнукаў. Няўжо яны хацелі-б, каб іх лёс быў такі-ж шматпакутны?

Кастрычнік 1917 быў страшэннай, трагічнай памылкай, якая ўзмацнялася амаль 80 гадоў. Але мне думаецца, што справа зусім не ў памылцы, хай нават самай фатальнай. Справа ў неправамернасьці зыходных пастулятаў, высунутых марксізмам, калі адна палітычная партыя безагаворачна прысвойвае сабе права будаваць па схеме пэўнае грамадства і заганяе сілком у гэту схему ўсю неахопную разнастайнасьць чалавечага жыцьця. Чалавецтва разьвіваецца па ўласным, Богам дадзеным, законам, якія ў многім яшчэ незразумелыя і недаступныя самому чалавеку. Усялякі дыктат, хай нават з найлепшымі намерамі, ёсьць недарэчны, ненатуральны і бясплодны. Вось чаму чалавецтва, колькі яно існуе, несупынна б'ецца за свабоду грамадзкага разьвіцьця, якой яго пазбаўляюць сілы, што валодаюць такой магчымасьцю.

М. М. Я далёкі ад думкі ідэалізаваць тыя працэсы і падзеі, якія адбываюцца сёньня ў Расіі. Але існаваньне там розных партыяў з рознымі праграмамі — бязумоўна, станоўчы факт, магчыма, самая галоўная палітычная і грамадзкая заваёва Расіі. Яе грамадзяне атрымалі права і магчымасьць выбару спосабу жыцьця сёньняшняга і будучага. Як ты думаеш, чаму беларусы аказаліся "сьвяцейшыя за Папу рымскага"? Згадзіся, што менавіта ў нас, на Беларусі, больш, чым дзе-небудзь, прыхільнікаў аднаўленьня СССР. Чым ты тлумачыш такі феномен? Прыбалтыйцы і нават украінцы зразумелі, што нацыянальны сувэрэнітэт — найвялікшая выгода, а мы — не, не зразумелі!!!

В. Б. Гэта — наша нацыянальная трагэдыя, якая вытлумачаецца гістарычна. На працягу многіх стагодзьдзяў Беларусь трымалі ў стане нацыянальнай цемры, заступалі шлях да сьвятла, што істотна сказалася — не магло не сказацца — на мэнталітэце нацыі. Празьмерная даверлівасьць, рахманасьць пайшлі беларусам зусім не на карысьць. У такіх сытуацыях, калі трэба было праяўляць натуральны недавер, нацыянальную, а з ёй і палітычную волю, як гэта зрабілі тыя-ж прыбалтыйцы, беларусы цалкам успрыймалі тое, што ім навязвалі звонку.

Асабліва гэта стала прыкметна, калі нам сілком навязваліся д'ябальскія, камуністычныя ідэі. У той час, калі іншыя нацыі знайшлі ў сабе моцы перагледзець і антычалавечыя камуністычныя догмы, і ўласную гісторыю, мы працягвалі і працягваем верыць у "добрага дзядулю Леніна", у яго мудрасьць і чалавечнасьць, хоць увесь сьвет даўно ўжо ведае, што менавіта Ленін (а не Гітлер!) нарадзіў ідэю канцэнтрацыйных лягераў... Уяўляю, як накінуцца на мяне за такое "кашчунства" камуністычныя артадоксы. Ну якжа: Васіль Быкаў прыпісаў такі страшэнны грэх сьвятому правадыру!.. Я ім параю прачытаць двухтомнік Дзьмітрыя Валкагонава "Ленін", цалкам пабудаваны на гістарычных дакумантах, якія дзесяцігодзьдзямі хавалі ад нас у спецсховах...

М. М. Я чытаў гэты двухтомнік і быў узрушаны жорсткасьцю і бесчалавечнасьцю Леніна. Некаторыя дакументы, напісаныя ягонай рукой, проста выклікаюць жах... Але давай, Васіль Уладзіміравіч, вернемся да пачатку нашай размовы... Ці згодны ты з тым, што само свабоднае існаваньне свабоднага грамадзтва мае патрэбу ў пэўнай рэгляментацыі?

В. Б. Зразумела. Але вядома, што анічога лепей за дэмакратычную арганізацыю чалавецтва не вынайшла. Хоць, павінен заўважыць, і дэмакратыя мае масу недахопаў. Важна, каб грамадзтва высьпела для дэмакратыі, каб дэмакратычныя інстытуты зьяўляліся для яго жаданай формай народаўладзьдзя, каб не займалася яно бясплоднымі пошукамі ўласнага, асобнага шляху, які, як паказвае даўні і нядаўні вопыт, нярэдка заканчваецца дыктатурай, гістарычным тупіком. Такім трагічным тупіком зьявілася і камуністычная ўтопія, з якой цяпер невядома як выбрацца.

М. М. Але-ж як вызначыць ступень дэмакратычнай сьпеласьці грамадзтва, пры якой магчымы шырокі і плённы пераход да глыбокіх рэформаў? Ці магчымыя тут памылкі, якія мы потым называем фатальнымі?

В. Б. Ня толькі магчымыя, але нават непазьбежныя. Разьвіцьцё грамадзтва адбываецца нераўнамерна па прычыне нават прыродных фактараў. У той час як адны нацыі даўно пайшлі па дэмакратычным шляху, іншыя давольныя напаўфеадальнай псыхалогіяй. Балтыя, напрыклад, раней Беларусі зразумела, што толькі на шляху дэмакратычнага самавызначэньня і поўнай незалежнасьці можна пабудаваць сучаснае цывілізаванае грамадзтва. Яна гераічна змагалася за свае ідэалы і перамагла. Але дзеля гэтага спатрэбілася актыўнасьць усяго народу, а ня толькі нацыянальнай інтэлігенцыі.

М. М. Дарэчы, чым ты вытлумачыш пасыўнасьць беларускай інтэлігенцыі, яе індэфэрэнтнасьць у адносінах да палітычнага жыцьця ў сваёй краіне?

В. Б. Ну, пра ўсю інтэлігенцыю я-б так не сказаў. Зноў-жа гэта тлумачыцца нашай шматпакутнай гісторыяй. Пасьля кастрычніцкага перавароту ў 1917 годзе ў нас, на Беларусі, з нацыянальнай інтэлігенцыяй было практычна пакончана. Ты-ж ведаеш, тысячы інтэлігентаў — пісьменьнікаў, мастакоў, артыстаў, вучоных — загубілі, расстраляўшы або саслаўшы на сталінскую катаргу. Можна сказаць, была загублена ўся краса нацыі. Ня толькі загубілі, але і пасеялі нейкі паталягічны страх у генах. "Абы было ціха! Абы ў турмы не саджалі! Абы вайны не было!" Парадзілі ў людзях нейкі жывёльны страх, які і сёньня часта перамагае іншыя, самыя высокія і высокародныя парываньні. **Іншыя нацыі апярэдзілі нас, беларусаў, на некалькі дзесяцігодзьдзяў!..**

М. М. І ты думаеш, што гэта будзе доўга працягвацца? Дзесяцігодзьдзямі?

В. Б. Вядома-ж, не! Успомні, якой неўміручай сілай яшчэ зусім нядаўна здавалася нам сіла і ўлада КПСС! І дзе яна цяпер, гэтая сіла ды ўлада? На сьметніку гісторыі. Рухнула, як цацачны картачны дамок. У Расіі, напрыклад, ніхто ўсур'ёз не верыць ані Зюганаву, ані Селязьневу, ані тым болей беснаватаму Анпілаву. Усё болей і болей людзей з кожным годам пачынаюць усьведамляць, што гэтыя асобы — учарашні дзень, да якога няма і ня можа быць вяртаньня. Тое-ж самае адбудзецца і ў нас, калі народ зразумее, што і праграма прэзыдэнта і сам прэзыдэнт — міраж у бязводнай пустыні. Калі чалавек пакутуе ад моцнай смагі, ён прымае міраж за рэальны аазіс. Такая ўжо чалавечая прырода — да апошняга імгненьня верыць у рэальнасьць такога выратавальнага аазісу, да апошняй хвіліны адганяць ад сябе страшэнную думку, што аніякага аазісу няма. Ёсьць міраж, падман зроку, ёсьць тое, чаго на самай справе няма і быць ня можа.

Відушчымі мы будзем станавіцца вельмі пакутліва, трагічна, таму што з прасьвятленьнем прыйдзе крушэньне ілюзіяў, якія мільёны людзей прымалі за рэальнасьць, калі прыйдзе разуменьне, што столькі гадоў страчана беззваротна! Зноў-такі наш давер, наша талерантнасьць...

М. М. Паколькі ты нагадаў нашага прэзыдэнта, дазволь мне задаць табе асабістае пытаньне. Некалькі разоў А. Лукашэнка, выступаючы публічна, казаў пра цябе прыкладна так... "Я вельмі паважаю Васіля Быкава за яго вялікі літаратурны талент. Ён цудоўны пісьменьнік, я выхоўваўся на яго творах. Але навошта ён лезе ў палітыку? Ягоная справа — літаратура, а не палітыка. Палітык ён дрэнны..."

В. Б. У тым-та і справа, што я ня лезу ў палітыку, мяне туды сілком цягнуць! Тыя-ж журналісты (пераважна расійскія, беларускія апошнім часам мяне баяцца, пэўна, нехта моцна напалохаў іх). Яны патрабуюць ад мяне выказваньняў па самых вострых праблемах сучаснасьці. Як кожны грамадзянін, я, натуральна, маю ўласнае меркаваньне, уласныя прынцыпы. Ці трэба хаваць мне свае перакананьні, таму што яны камусьці не падабаюцца? Сьмешна і недарэчна, ці ня так? Так мае прынцыпы і мае пераконаньні карэнным чынам разыходзяцца з прынцыпамі і пераконаньнямі Аляксандра Рыгоравіча. Але тут я ўжо анічога не магу зрабіць. Мяняць пераконаньні, як рукавіцы, я не магу, ніколі гэтага не рабіў. І потым... Я не магу ўявіць сабе пісьменьніка апалітычнай асобаю. Гэта немагчыма. Яшчэ той-жа Ленін у свой час казаў: жыць у грамадзтве і быць свабодным ад грамадзтва нельга...

М. М. І апошняе асабістае пытаньне... Як табе, Васіль, жывецца і пішацца ў Фінляндыі?

В. Б. Пішацца добра — ніхто не перашкаджае, не лезе з пытаньнямі, з інтэрв'ю, не набіваецца ў госьці... Можна сказаць, ідэальныя ўмовы дзеля творчасьці. Я там напісаў ужо аповесьць і некалькі апавяданьняў. Што датычыць "як жывецца"... Аніякіх побытавых праблемаў няма, але не хапае нашай беларускай атмасфэры, роднага паветра, сяброўскіх зносін, без чаго ня можа быць поўнага душэўнага камфорту. Але хутка гэтая мая "болдзінская восень" закончыцца і я вярнуся ў Менск.

М. М. Хай гэта "болдзінская восень" прадоўжыцца як мага даўжэй і хай яна будзе максымальна плённай!

В. Б. Дзякую. Будзем спадзявацца...



## Далейшыя ахвяраваньні на

**Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына.**

| | |
|---|---|
| 9. Валь. і Мікола Сьнежко | $50.oo |
| 10. Мікола Грэбень | $100.oo |
| 11. Моніка Банькоўскі (Швайцарыя) | $100.oo |
| 12. Міхал Швэдзюк (Англія) | $36.oo |
| 13. Іван Дубчонак (Англія) | $24.oo |
| 14. М. Баяроўскі (Англія) | $20.oo |
| 15. С. Будкевіч (Англія) | $20.oo |
| 16. Нікадэм Жызьнеўскі | $50.oo |
| 17. Ванда Махнач | $50.oo |
| 18. Др. Анатоль Санковіч | $50.oo |
| 19. Др. Вітаўт і Вера Рамук | $1000.oo |
| 20. Людвіка Беленіс | $25.oo |
| 21. Кляра Пануцэвіч | $25.oo |
| 22. Гэнрык Сенькевіч | $25.oo |
| 23. Васіль Богдан | $25.oo |
| 24. Майк Кучура | $20.oo |
| 25. Ян Навагродзкі | $5.oo |
| 26. Пётр і Анна Мелінішын | $40.oo |
| 27. Аляксандра Крамэр | $40.oo |
| 28. Васіль Шчэцька | $25.oo |
| 29. Кастусь Мерляк | $20.oo |
| 30. Альбуцкі | $20.oo |
| 31. Кастусь і Марыя Верабей | $25.oo |
| 32. Уладзімір Пелеса | $25.oo |
| 33. Уладзімір Орэшкевіч | $20.oo |
| 34. Грэгоры Казьляхоўскі | $5.oo |
| 35. Віталі Кажан | $80.oo |
| 36. Кастусь Вайцяхоўскі | $50.oo |
| 37. Марат Клакоцкі | $50.oo |
| 38. Бэрніс і Юрка Касьцюкевічы | $50.oo |
| 39. Антоні Філістовіч | $50.oo |
| 40. Ірэна Барнс | $30.oo |
| 41. Ванкарэм Нікіфаровіч | $4[illegible].oo |

Прадаўжэньне Лісты ахвярадаўца[illegible] у наступных нумарах газэты... Дзяку[illegible]!

**МОВА – ДУХОЎНА ЯДНАЮЧЫ ПАДМУРАК МАГЧЫМАСЦІ ІСНАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ. ЯНА НЕ МОЖА БЫЦЬ ПА-ЗА ГЛАБАЛЬНАЙ ПАЛІТЫКАЙ**

У апошні час у асяродку беларускай інтэлігенцыі акрэсліліся два наступныя накірункі ў жыццядзейнасці: законапаслухмянасць існуючым уладам і прыстасаванне ў асабіста карысных мэтах да існуючых абставін; законапаслухмянасць Боскім палажэнням і сумленню з улікам абставін, якія склаліся, і неабходнасцяў уласнага жыцця. Не абышла гэта з'ява і Таварыства беларускай мовы. Але ў адпаведнасці з першым напрамкам ад беларускай мовы хутка застануцца толькі фальклорныя ўспаміны для пацех замежных гасцей. Не стане і беларусаў у этнічных адносінах. Другі ж – заве да рашучага змагання захаваць і развіваць беларускую мову на роўных з астатнімі мовамі падставах, адстаяць правы беларускага этнасу на самастойнае раўнапраўнае жыццё ў сям'і ўсіх іншых цывілізаваных народаў. Аб гэтым і пойдзе далей размова.

1. **Ёсць і такі погляд на ролю мовы і задачы Таварыства па яе абароне**

Яго сутнасць выказаў "паэт і грамадскі дзеяч, старшыня Рэспубліканскай рады ТБМ" ("Звязда" ад 27.06.1998 г.) Генадзь Бураўкін, які ў сваім інтэрв'ю катэгарычна заявіў наступнае: "Не трэба ўцягваць нас у палітычныя гульні. Мы гэтага не хочам і на гэта не пойдзем. Каму трэба нас тапіць?". Пад "Мы" у дадзеным выпадку маецца на ўвазе не хтосьці асабіста, а Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Словы ж тыя былі сказаныя ў час прымусовага (па рашэнні Абласнога гаспадарчага суда Мінска, з удзелам міліцыі) пазбаўлення ТБМ яе адзінага офіса – невялікага памяшкання (па вул. Румянцава, 13), што было выдзелена Таварыству беларускай дзяржавай, якая толькі нараджалася, яшчэ ў 1989 годзе.

Сутнасць прыведзеных слоў Генадзя Мікалаевіча практычна ў маштабе 1:1 паўторана "Народнай воляй" 30.06.1998 г. Адпаведны артыкул пастаўлены там нават на самым першым месцы. У ім жа падкрэслена, што "ТБМ імя Ф.Скарыны – арганізацыя зусім не палітычная", яе нельга прама "атаясамліваць, скажам, з БНФ або іншай партыяй ці рухам, якія ў апазіцыі да ўлады". Адзначана нелагічнасць гвалтоўнага пазбаўлення ТБМ названага офіса і яго незаконнасць. Бо была пададзена заява ў Рэспубліканскі суд на перагляд рашэння абласной судовай інстанцыі. Абскарджанне тое яшчэ не разгледжана. Гісторыя з высяленнем тлумачыцца адным: "не ў пашане, на вялікі жаль, у беларускай дзяржаве роднае слова". У якасці станоўчага аб тым высяленні ТБМ запісана тое, што яно "абышлося без скандалаў і інцыдэнтаў з боку прыхільнікаў і сяброў Таварыства ў многім дзякуючы "законапаслухмянай" пазіцыі кіраўніка гэтай грамадскай арганізацыі Г. Бураўкіна. Сваім аўтарытэтам ён здолеў стрымаць ускіпелыя ад несправядлівасці пачуцці ды страсці пікетчыкаў".

Дзеля аб'ектыўнасці ўспрымання штучна створанай сітуацыі з высяленнем ТБМ рэдакцыя "Народнай волі" надрукавала і ліст Генадзя Бураўкіна прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнку.

Павярхоўны разгляд двух вышэйназваных поўнасцю ідэнтычных артыкулаў дае падставы ўспрымаць разгледжаную з'яву прыблізна так: канешне, зроблена незаконная акцыя пазбаўлення ТБМ яе сядзібы, дрэнна, што ў нашай Беларусі "не ў пашане роднае слова". Але ж нічога страшэннага ў тым няма. Тое здарэнне не паўплывае на наш дабрабыт, на колькасць выпітай гарэлкі, з'едзенай каўбасы, якасць мініспадніцы, шкарпэтак, жылля, кахання і іншых жыццёвых з'яў. Таму мы добрае зрабілі самім фактам дэманстрацыі перад уладамі сваёй "законапаслухмянасці", а таксама тым, што не далі сябе "уцягнуць (праўда, невядома каму) у палітычныя гульні". Мы наведалі мэра Мінска У.В. Ярмошына. Нам "гарвыканкам ва ўсім ідзе насустрач". Мы "механізм запусцілі". Мы – людзі выдатныя, зусім "непалітычныя", лічым справу развіцця і пашырэння дзяржаўнай беларускай мовы стратэгічна неабходнай і актуальнай.

2. **Толькі навошта ж Богам створаны розныя мовы і этнасы?**

Аднак на ўсё адзначанае можна паглядзець з іншага, супрацьлеглага боку. З пазіцый ісціны як фіксатара падзей і з'яў у іх заканамернай сувязі. Тады і вывады атрымаюцца супрацьлеглымі. Толькі каб вынікі гэтага другога разгляду былі зразумелымі і простаму чытачу, вызначым спачатку, што такое мова, этнас, нацыя, якая іх роля ў агульначалавечым грамадстве і ці маюць яны адносіны да самой сутнасці жыцця кожнага з нас і да яго дабрабыту. Пры гэтым не будзем (за адсутнасцю газетнага месца) пералічваць, што, дзе і як аб тым напісана. І адразу адзначым, што мова не проста "язык, важнейшее средство человеческого общения" ("Советский энциклопедический словарь", М., 1985, с. 1567). Яна – складанейшая дзейсная уласцівасць душы пэўнага этнасу, якая дадзена яму Богам для свайго разумовага ўспрымання, збераження ў памяці і аналізу звестак ад усяго навакольнага прыроднага і грамадскага асяроддзя. А этнас – гэта не неакрэсленая "исторически сложившаяся этническая общность – племя, народность, нация" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1990, с. 910). Кожны з іх створаны Богам як пэўны від людскіх супольнасцяў, як родасна-расавая група людзей, надзеленых, у галоўным, рысамі адноолькавасцяў на генным узроўні, пэўным абагульненым характарам, сваёй мовай і сваімі асаблівасцямі ўспрымання з'яў і працэсаў прыроды, а таксама грамадства.

Кожная мова мае ў сукупнасці толькі свае, уласцівыя толькі ёй асаблівасці ўспрымання прыродных і грамадскіх працэсаў і з'яў. Таму ёю фарміруецца сутнасць пэўнага этнасу. Этнасы, як і адпаведныя ім мовы, створаны Боскімі сіламі невыпадкова. А каб праз дабрачыннае ўзаемадзеянне этнічных рознасцяў забяспечваць існаванне пастаянна дзеючых умоў для самаўдасканалення ўсяго чалавецтва на аснове прынцыпу: праз этнічна-нацыянальнае да агульначалавечага, ад агульначалавечага для нацыянальнага. Адзначанае забяспечваецца і рознымі фізіка-геаграфічнымі ўмовамі, з улікам якіх і створаны пэўныя этнасы. Таму Боскі наказ кожнаму этнасу – зберагаць і развіваць сябе, забяспечваць правы на тое ж іншым этнасам. Аналагічна адносна нацыі можна сказаць, што яна – не "племя, народ, историческая общность людей, складывающаяся в процессе формирования их территории, экономических связей, литературного языка, этнических особенностей культуры и характера". Яна – дзяржаўнае аб'яднанне людзей, якое ўзнікла на аснове пэўнага канкрэтнага этнасу (у рэдкіх выпадках – спалучэння некалькіх этнасаў) і згуртаванае сумеснымі набыткамі культуры, а таксама прынцыпамі жыццядзейнасці. Так, у ЗША нацыя склалася на аснове англамоўнай большасці перасяленцаў, у Расіі – на Рускім падмурку, праз русіфікацыю і г.д. Значыць, і ў аснове нацый – этнічныя асаблівасці, якія павінны свядома зберагацца ўсімі людзьмі і паважацца. Бо чалавецтва можа паступова самавырадзіцца і загінуць, калі усіх людзей гвалтоўна перамяшаць для стварэння агульнай шэрай масы накшталт савецкага народа.

Усё адзначанае паказвае, што моўныя справы любой цывілізаванай краіны ўваходзяць у склад найгалоўнейшых задач не толькі дзяржаўнай, але і глабальнай палітыкі. Выходзячы са сказанага, Г. Бураўкін дарэмна акрэсліў сяброў Таварыства беларускай мовы апалітычнымі. Вядома, мы не ставім сваёй мэтай змаганне за ўладу. Але ж наша мэта – змаганне за зберажэнне ў інтэрэсах усяго чалавецтва беларускай мовы як асновы беларускага этнасу. Як сказаў неўміручы геній Ларысы Геніюш,

Сёння на пласе родная мова, –<br>
Вырваць жывою належыць з агню.<br>
Слова "кахаю" тут слабае слова.<br>
Мужнае слова – "абараню!".

3. **Таму мы – апазіцыянеры сучаснага стану беларускай мовы**

У гэтым сэнсе мы ў рашучай апазіцыі вярхоўным уладам Беларусі, якія сваімі дзеяннямі не проста не паважаюць беларускую мову, а перад усім светам зневажаюць яе як састаўляючую душу беларускага народа, імкнуцца зрабіць непатрэбнай грамадству. Мы не можам згадзіцца з такім злачынствам, каб камусьці спадабацца "законапаслухмянствам". Бо яно вядзе да знікнення беларусаў у этнічных адносінах, да поўнай русіфікацыі, да непазбежнага паглынання нас Расіяй, да таго, каб ад Беларусі засталася толькі тэрытарыяльная назва. А за гэтым – поўны непазбежны расійскі хаос, "сложнейший полисистемный кризис, поразивший образование, армию, медицину. И, если самый острый из них – экономический, то самый глубокий – идейный" ("Известия" от 17.06.1998 г.). Гэты крызіс непазбежна ператворыць нашу краіну ў правінцыяльную, у якойсьці меры каланіяльную частку "великой могучей России". Накрые ён непазбежна ўсіх жыхароў Беларусі: і рускіх – і зюганаўцаў, і жырыноўцаў, – і ўсіх іншых грамадзян, якія імкнуцца хутчэй далучыць нашу рэспубліку да фундамента новага СССР.

Ёсць у разглядаемых артыкулах "Звязды" і "Народнай волі" недапушчальныя недакладнасці. Так, напрыклад, да суда супраць нас рэспубліканскае кіраўніцтва ТБМ было зусім непадрыхтавана. Сам Г. Бураўкін і не імкнуўся прысутнічаць на яго пасяджэнні. Таму, можна сказаць, суддзя паводзіла сябе агрэсіўна ў адносінах да ТБМ, зрабіла суд закрытым, нешматлікіх прадстаўнікоў мінскай гарадской рады ТБМ "папрасіла" з дапамогай міліцыі пакінуць судовы працэс, які працягваўся каля сямі хвілін. Да старшыні Мінскага гарвыканкама У. В. Ярмошына Генадзь Мікалаевіч ішоў амаль што год. А сапраўды быў у яго на прыёме ўжо пасля суда і яго рашэння аб пазбаўленні ТБМ сядзібы. Аніякага пісьмовага асабістага абяцання з боку Уладзіміра Васільевіча адносна дапамогі нам нідзе няма. Заява ў Рэспубліканскі гаспадарчы суд аб адмене рашэння абласнога суда прынята там ужо пасля заканчэння тэрміну на абскарджанне за дзень ці за два да высялення, якое і без таго адкладвалася выканаўцам. Так што ў тым, што здарылася, ёсць і пэўная віна самога рэспубліканскага кіраўніцтва ТБМ. Адносна ж звароту Г. Бураўкіна да А. Лукашэнкі можна сказаць наступнае:

Ганьбуецца слова,<br>
Знішчаецца мова.<br>
Мы ж спіны згібаем узгадон …<br>
Дзе ж гучнае слова,<br>
Што мова – аснова<br>
Яднання, каб нас бараніць?<br>
Дзе заклік на ёй, прадвечна святой,<br>
Што этнас наш створан каб жыць?<br>
Каб зноў самастойна,<br>
З павагай прыстойна<br>
З народамі ўсімі дружыць!<br>
Каб мы, беларусы, не мелі прымусу<br>
Братамі малодшымі быць!<br>
Каб верылі, зналі,<br>
Заўжды адчувалі,<br>
Што здольны на якасны плён!<br>
За тое змагацца,<br>
З каленяў узняцца<br>
Нас кліча набата звон …

**Аляксей Саламонаў, старшыня Мінскай гарадской рады Таварыства Беларускай мовы, доктар тэхнічных навук, прафесар**

# Шлях да Крыжа

"Звязда"

**Да свята Узвіжання Крыжа Гасподняга быў прымеркаваны «круглы стол», які наладзіў Міжнародны дабрачынны фонд Жыватворнага Крыжа святой Ефрасінні Полацкай.**

*Калі губляецца святыня — гэта знак, які прымушае чалавека задумацца, якая сіла кіруе яго жыццём. Калі губляецца святыня народа — быццам бы анёл-ахоўнік пакідае яго душу сам-насам з выпрабаваннямі. У Беларусі ёсць свая заступніца перад нябёсамі — святая Ефрасіння. У Беларусі была святыня, якая давала неверагодныя сілы тым, хто прасіў пра дараванне і збаўенне — Крыж Ефрасінні Полацкай. Ён падзяляў лёс людзей, да якіх некалі прыйшоў: перажываў крывавыя войны, неаднаразова вывозіўся з роднай зямлі, але вяртаўся. Не вярнуўся толькі аднойчы. У савецкія гады святы крыж быў пераведзены ў разрад звычайнай музейнай рэліквіі, а ў гады вайны быццам бы быў вывезены з Беларусі разам з іншымі каштоўнасцямі. Куды? Гэтае пытанне задаюць сабе некалькі дзесяцігоддзяў людзі, якія імкнуцца знайсці і вярнуць нам частку радзімы. Пакуль безвынікова.*

### *У Полацкім княстве*

Гісторыя даносіць звесткі пра тое, што не выпадкова галоўнай святыняю нашай зямлі стаў менавіта крыж. Полацкія князі прысягалі народу шляхам крыжацалавання. Хто парушаў такую прысягу, браў на душу найвялікшы грэх. Вось адзін факт з гісторыі. Усяслаў Полацкі даверыўся кіеўскаму князю Ізяславу — той цалаваў крыж, абяцаючы бяспеку. Ізяслаў слова парушыў, і полацкі князь правёў больш года ў палоне. Але 14 верасня ў свята Узвіжання памаліўся крыжу. Назаўтра яго вызвалілі.

Ефрасіння была ўнучкай Усяслава. Яна з дзяцінства ведала, якую сілу мае крыж на нашай зямлі. Не выпадкова, што найпершай святыняю тут стаў крыж, зроблены для яе. Гісторык Георгій Штыхаў лічыць: трагедыя нашай зямлі ў тым, што полацкая дынастыя згасла ў самы адказны для княства час. Ад продкаў, якія жылі з вераю і славаю, нам застаўся духоўны сімвал дзяржавы.

Але дзяржава не заўсёды была здольная яго захаваць.

### *Другое нараджэнне*

Тым часам, каб краіна не жыла без крыжа, брэсцкі мастак-ювелір Мікола Кузміч паклаў некалькі гадоў, каб аднавіць святыню, зробленую некалі па заказу Ефрасінні майстрам Богшам. Як да веры людзі прыходзяць у пакутах, так і да гэтага крыжа мастак ішоў праз нечаканыя праблемы. Адна з іх заключалася ў тым, што ў Беларусі да цяперашняга часу няма нават фотакопій крыжа. Спатрэбіліся пошукі чыста прафесійныя — тэхніка візантыйскай эмалі была страчана ў вяках. А за духоўнымі сіламі мастак ездзіў па святых месцах, у Полацк, у Іерусалім. Новы крыж быў зроблены ў 1997 годзе і ў снежні заняў месца, вызначанае полацкай святой яшчэ ў 1161 годзе — у Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры.

### *Знайсці і вярнуць*

На крыжы святой Ефрасінні быў заклён, які абяцаў кару кожнаму, хто толькі паспрабуе яго вывесці з Полацка. Хто ведае, можа расплаты за жорсткасць на нашай зямлі баяўся Іван Жахлівы, вяртаючы святыню палачанам. У 1929 годзе Крыж Ефрасінні Полацкай быў перавезены ў Магілёў, куды збіраліся перанесці сталіцу БССР. Адсюль цяпер вядуцца яго пошукі.

Адпрацоўваюцца розныя версіі: Крыж мог быць вывезены ў Германію, альбо наадварот, у Расію, адкуль у сваю чаргу яго маглі прадаць у Амерыку вядомаму калекцыянеру Моргану. Афіцыйныя запыты не далі ніякіх вынікаў. А магло здарыцца і так, што яго шлях спыніўся ў нейкім правінцыяльным гарадку Расіі. Дарэчы, не толькі яго, бо сёння Беларусь валодае толькі адным працэнтам сваіх каштоўнасцяў.

Лёс Крыжа імкнуцца высветліць людзі розных прафесій — прафесар Адам Мальдзіс, супрацоўнік упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Магілёўскай вобласці Сяргей Багдановіч, Інтэрпол, беларусы Амерыкі, беларусы Расіі. Наш зямляк Анатоль Селівончык з Сібіры з'яўляецца прэзідэнтам МДФ Жыватворнага Крыжа святой Ефрасінні Полацкай. І калі беларусы з розных краін далучаюцца да справы вяртання святыні, ці не сведчыць гэта пра тое, як неабходная яна для Беларусі? Бо Крыж увасабляе надзею на ўваскрэсенне.

У 1999 годзе навукоўцы зноў збяруцца, каб абмяняцца новымі данымі, якія датычацца гісторыі Крыжа Ефрасінні. Але пра яго сёння павінны ведаць не толькі зацікаўленыя асобы, а літаральна кожны жыхар Беларусі. Таму нядаўна свет убачыла кніга «Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны», напісаная гісторыкам Уладзімірам Арловым пры ўдзеле яшчэ многіх людзей.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**



## КАНГРЭС будзе ў студзені

**Каля 700 дэлегатаў будуць удзельнічаць у Кангрэсе дэмакратычных сілаў Беларусі, які намечана правесці ў канцы студзеня наступнага года.**

Гэтая лічба была названая 21 кастрычніка на паседжанні аргкамітэта па правядзенні кангрэса, якое прайшло пад старшынствам Генадзя Карпенкі.

Члены аргкамітэта згадзіліся з прапановай намесніка старшыні БНФ Юрыя Хадыкі пры вызначэнні складу ўдзельнікаў кангрэса выкарыстоўваць змешаную сістэму вылучэння. На сёння да ўдзелу ў кангрэсе рыхтуюцца прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, дзвюх сацыял-дэмакратычных партыяў, Беларускай партыі працы, а таксама шэрагу грамадскіх арганізацыяў. Сярод дэлегатаў будуць таксама асобы, абраныя на сумесных абласных канферэнцыях гэтых партыяў і грамадскіх арганізацыяў.

# СЛАВЯНЕ: АГУЛЬНЫЯ КАРАНІ І РОЗНЫЯ ЛЁСЫ

**(Нататкі аб XII Міжнародным кангрэсе славістаў у Кракаве)**

"КУЛЬТУРА"

### 1. Паміж фэстам і алімпіядай

Адзін раз на пяць гадоў славісты розных краін маюць сваё свята — міжнародныя славістычныя з'езды, якія збіраюць навукоўцаў і універсітэцкіх выкладчыкаў, што займаюцца *мовамі, літаратурамі* і гісторыяй славянскіх народаў. Славістычныя з'езды праходзяць па чарзе ў кожнай славянскай краіне. Папярэдні адбыўся ў Браціславе, наступны будзе ў Любляне, а сёлетні, з 27 жніўня па 2 верасня, праходзіў у Кракаве.

У адрозненне ад алімпійскіх гульняў, нацыянальныя "зборныя" славістаў спаборнічаюць не ў час кангрэсаў, а ўсе гады напярэдадні. Славістычная моц нацыянальных традыцый складаецца з якасці і колькасці выдадзеных слоўнікаў і граматык, новых даследаванняў і падручнікаў па мове і літаратуры, філалагічных і гістарычных часопісаў, навуковых выданняў помнікаў слова — старажытных першакрыніц, фальклору, класікаў прыгожага пісьменства. Вось чаму ўвесь час кангрэсу так ажыўлена было ў Ягелонскай бібліятэцы: у яе вестыбюлях былі разгорнуты выставы новых выданняў па славістыцы, што прывезлі дэлегацыі кожнай краіны-ўдзельніцы. І менавіта тут было відавочна: свет славістыкі значна больш шырокі, чым славянскі свет. Бачылі б вы славістычнае выдавецкае багацце Германіі!

Хуткасць, з якой штогод шырыцца кніжна-часопіснае *мора славістыкі*, амаль палохае. У 1908 годзе вычарпальная бібліяграфія па славянскім мовазнаўстве (выдадзеная, дарэчы, у Варшаве) апісвала 245 работ, надрукаваных за адзін год ва ўсіх еўрапейскіх краінах; зараз гадавая мовазнаўчая бібліяграфія (якая, аднак, ужо не прэтэндуе на вычарпальную паўнату) налічвае звыш 7000 публікацый. А гэта ж толькі адна галіна славістыкі, без літаратуразнаўства і гісторыі! Вось чаму міжнародныя з'езды славістаў былі вымушаны паступова звузіць свае тэматычныя межы: на Кракаўскі кангрэс сабраліся толькі філолагі, без гісторыкаў. І ўсё ж у праграме з'езду, а таксама ў двух тамах рэзюмэ прадстаўлена звыш 1000 дакладаў і паведамленняў. І хаця прагучала не ўся "тысяча", але і лічба 800 — уражвае.

### 2. W królewskim pięknym Krakowie

Бадай, ні ў якой іншай са славянскіх краін урачыстае адкрыццё Кангрэса не магло б прайсці з той цырыманіяльнай прыгажосцю, што ствараецца стагоддзямі супольнага акадэмічнага, царкоўнага і грамадзянскага жыцця. Сярод ганаровых прысутных — польскі прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі, "Ягоэмінэнцыя" кракаўскі кардынал і мітрапаліт, вышэйшыя чыны з адміністрацыі прэзідэнта, кіраўніцтва Польскай акадэміі навук, міністр культуры і мастацтва, міністр адукацыі, кракаўскі мэр, рэктар Кракаўскага універсітэта, дэкан філалагічнага факультэта, галоўныя кракаўскія генералы... Шматлікая ахова, у адрозненне ад кардынала і генералаў, — у цывільным, але таксама адметна і спрыяе небудзённасці атмасферы. Ля сцэны — стэнд з фірменнымі знакамі і лагатыпамі 15 спонсараў Кангрэса. Словы прывітанняў узважаныя, стопрацэнтна паліткарэктныя і пры гэтым разнастайныя. Гучыць тэлеграма і "апостальнае блаславенне" Папы Яна ІІ. Прэзідэнт гаворыць аб дванаццаці славянскіх дзяржавах "на мапе Еўропы", аб еўрапейскай інтэграцыі і "славянскім чынніку", які надасць "нашай старой Еўропе новай дынамікі, умацуе яе самабытнасць і дапаможа закончыць гістарычныя спрэчкі". Старадаўняя формула W królewskim pięknym Krakowie з вуснаў прэзідэнта гучыць амаль лірычна.

### 3. Без перакладчыкаў

У сёлетнім Кангрэсе, акрамя аўтараў з усіх славянскіх дзяржаў, удзельнічалі славісты з 28 неславянскіх краін. Гэта значыць, што цэнтры славістыкі і пэўную славістычную адукацыю маюць, па-за межамі славянскага свету, Азербайджан, Албанія, Аўстралія, Аўстрыя, Бельгія, Вялікабрытанія, Венгрыя, Германія, Грузія, Грэцыя, ЗША, Ізраіль, Іспанія, Італія, Канада, Карэя, Латвія, Літва, Малдова, Нарвегія, Нідэрланды, Румынія, Фінляндыя, Францыя, Швейцарыя, Швецыя, Эстонія, Японія.

Па звычаю, на міжнародных славістычных кангрэсах рабочыя мовы — гэта ўсе славянскія і традыцыйныя для славістыкі міжнародныя неславянскія, — нямецкая, англійская, французская. Нельга сказаць, што моўных цяжкасцей не было, але, па-першае, прафесія слависта абавязвае яе мінімум арыентавацца ў славянскай моўнай прасторы, а па-другое, славянскія мовы, у адрозненне ад раманскіх і германскіх, усё яшчэ застаюцца даволі блізкімі адна да адной (хаця працэсы разыходжання і аддалення славянскіх моў доўжацца ўжо паўтары тысячы гадоў). Моўныя бар'еры ўсё ж пераадольваліся, і галоўныя цяжкасці былі звязаны не з мовамі, а з часам: адначасова працавала 16 секцый, а адна-го вечара — адразу нават 20, так званых тэматычных блокаў (ці "круглых сталоў"). Гэта значыць, што ў лепшым выпадку можна было пачуць крыху больш за пяць адсоткаў з праграмы Кангрэса. Але і гэтага нямала, асабліва калі ўлічыць, што цікавымі і часам павучальнымі былі не толькі самі даклады, але і пытанні, дыскусіі, спрэчкі... Галоўнае ж — магчымасць убачыць і пачуць тых, хто дагэтуль быў вядомы толькі завочна, па прозвішчы на кніжных вокладках ці ў часопісных рубрыках. Чвэрць гадзіны жывога слова часам даюць не менш, чым кніга. Вось чаму большасць з удзельнікаў Кангрэса адчулі новыя стымулы, што ішлі ад міжнароднай прафесійнай лучнасці: нас многа і мы цікавыя адзін аднаму.

### 4. Без палітыкі

Пасля разбурэння берлінскай сцяны славістыка даволі імкліва змянілася. У краінах былога сацлагера не стала забароненых ці непажаданых тэм, партыйна-ідэалагічнага кантролю і "ахоўчых" функцый "партыйнай" навукі. На Захадзе, асабліва ў ЗША, славістыка часткова згубіла сваё "стратэгічнае значэнне" — быць філалагічнай базай вывучэння "імперыі зла" і яе ўсходнееўрапейскіх саюзнікаў. На жаль, на Захадзе гэта адбілася на фінансавай падтрымцы славістыкі, на колькасці студэнтаў у славістычных семінарах. У новых незалежных краінах фінансавыя цяжкасці звязаны з умовамі пераходнага часу, але, насуперак ім, свабода ад партыйнай апекі прывяла да даўно нябачнага росквіту гуманітарнай думкі, асабліва ў філасофіі, культуралогіі, літаратуразнаўстве. Забароненыя некалі тэмы нацыяналізму, рэлігійных пошукаў, індывідуалістычнай і эксперыментальнай эстэтыкі перажываюць росквіт. Пры гэтым самі словы нацыяналізм, нацыяналіст у посттаталітарных краінах ужо гадоў восем як пазбавіліся адмоўнага адцення.

Заўважу, што кола мовазнаўцаў было трохі шырэйшым, чым літаратуразнаўцаў і фалькларыстаў, і гэта не выпадкова.

### 5. Даклад, на які імкнуліся ўсе

Каб умясціць усіх жадаючых, гэты даклад прыйшлося перанесці, бадай, у самую вялікую аўдыторыю хімічнага калегіума Ягелонскага універсітэта — амфітэатр слухачоў на 300. Даклад называўся "Праблемы вывучэння берасцяных грамат", і рабіў яго Андрэй Анатолевіч Залізняк, 60-гадовы акадэмік з Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Расійскай Акадэміі навук. Даклад зусім не быў сенсацыяй, бо наўгародскія берасцяныя граматы былі адкрытыя ўжо даўно, у 1951 г., з таго часу інтэнсіўна даследуюцца, вядуцца новыя раскопкі, сам Залізняк надрукаваў аб граматах на берасце некалькі кніг, дзесяткі артыкулаў, колькі разоў выступаў з дакладамі. І ягоны кракаўскі даклад не быў ні вынікам, ні абагульненнем: так, некаторыя новыя чытанні ў дэшыфроўцы грамат, удакладненні асобных дат па гісторыі пісьменнасці і мовы, — усё гэта падрабязнасці, цікавыя, здавалася б, толькі вузкім спецыялістам. Адкуль тады перапоўненая зала? На маю думку, слухачоў вабілі не толькі навуковая значнасць і рэальны драматызм даследавання, але і маштаб і яркасць асобы вучонага, яго магутны і такі адразу адчувальны інтэлект, яго натхнёнасць і захопленасць пошукам і разам з тым — лёгкасць, імклівасць і цявярозасць яго дакладаў. Феномен дакладаў Залізняка ў нечым блізкі па артыстызме і прыцягальнасці да тэлевізійных выступленняў Эдварда Радзінскага: іх цікава слухаць і бачыць, пра што б яны ні распавядалі.

### 6. Даклад, аб якім паведаміла радыё "Свабода"

Хаця кракаўскі кангрэс і сабраў сотні ўдзельнікаў з усяго свету, і яго здымалі для ТВ, аб ім пісалі газеты, і прэзідэнт Польшчы ўшанаваў адкрыццё кангрэса сваёй прысутнасцю, усё ж гэта не футбольны чэмпіянат, аб якім ведае амаль прымусова кожны жыхар краіны. Для разумення інфармацыйных працэсаў у грамадстве, для ацэнкі ступені яго гуманітарнай дасведчанасці вельмі паказальна, што аб Міжнародным кангрэсе славістаў паведамляе мас-медыя. У інфармацыі рускай службы радыё "Свабода" пакуль што быў згаданы толькі адзін блок дакладаў на з'ездзе — прысвечаны прозе Іосіфа Бродскага. Польскія газеты пісалі пра даклады аб Адаме Міцкевічу і перспектывах польскай мовы ў замежжы. Адна маскоўская газета адзначыла, што расійская дэлегацыя была на з'ездзе самай прадстаўнічай (спадзяюся, мелася на ўвазе колькасць прыехаўшых з-за мяжы). На што звяртае ўвагу беларуская "Культура", чытач бачыць на ўласныя вочы. Каб можна было адчуць, як выглядаюць найбольш спецыяльныя і вузкія тэмы з дакладаў кангрэса, я назаву дзве з іх: "Некаторыя паралелі ў развіцці парнага ліку ў славенскай і сербалужыцкіх мовах (са Славеніі) і "Выбар прыставак у словах, вытворных ад рускага "слать" (з Германіі).

### 7. Міжславянская талака

У міжнароднай супольнасці славістаў існуе шэраг агульнаславянскіх і групавых даследніцкіх і выдавецкіх праектаў — напрыклад, агульнаславянскі дыялекталагічны атлас, тэрміналагічныя слоўнікі, сумесная падрыхтоўка вычарпальнага слоўніка старaславянскай мовы, сумесныя бібліяграфічныя даведнікі ды інш. Адзін з найбольш цікавых і выніковых сумесных праектаў —"Найноўшая гісторыя славянскіх моваў". Славісты завуць гэты праект "опальскім" — па назве польскага горада Opole, дзе ва універсітэце працуе галоўны рэдактар і каардынатар даследавання, прафесар Станіслаў Гайда. Праект прадугледжвае вывучэнне тых змен, што адбыліся ў славянскіх мовах за апошнія 50 гадоў, дакладней, ад часу заканчэння Другой сусветнай вайны і да 1995 г. Агульны план, блізкая методыка і адзіны фармат даследаванняў забяспечаць іх параўнальнасць і тым самым надзейнасць канчатковых высноў. Ужо выйшлі друкам тамы, прысвечаныя большасці славянскіх моваў. Напярэдадні кракаўскага з'езда свет убачыў новы опальскі том, на гэты раз прысвечаны беларускай мове; яго падрыхтаваў калектыў даследчыкаў з БДУ і Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук.




### 8. Аб чым спрачаліся

"Опальскаму праекту", дарэчы, быў прысвечаны адзін з "круглых сталоў", дзе, сярод іншых пытанняў, абмяркоўвалі сучасныя тэндэнцыі ў развіцці славянскіх моваў. Дзве з тэндэнцый — дэмакратызацыя літаратурных славянскіх моў і іх інтэрнацыяналізацыя — выклікалі найбольшыя дыскусіі. Спрачаліся наконт розных бакоў тэмы: у чым можна бачыць праяўленне гэтых тэндэнцый, як да іх ставіцца, чаго чакаць у будучым. "Ці можна лічыць носьбітам літаратурнай мовы таго тэлежурналіста, які тройчы запар казаў: "Патрыярх узяў тайм-аут?" — ставіла рытарычнае пытанне адна дама і сама рашуча адказвала: "Ні ў якім выпадку!", але з ёй пагаджаліся не ўсе. Больш плённымі, а часам і больш гарачымі былі дыскусіі на пасяджэннях, прысвечаных абароне тых славянскіх моў, для існавання якіх ёсць пагрозы, а таксама сучаснаму нацыянальнаму адраджэнню славян.

Цікавая статыстыка: колькасць дакладаў на Кангрэсе па лінгвістыцы і па літаратуразнаўстве амаль роўная: 264 і 261 (без уліку выступленняў па праграмах "круглых сталоў"). Аднак колькасці тых, хто ўдзельнічаў у абмеркаванні дакладаў, істотна розныя: 1053 "галасы" (пытанні ці рэплікі) у лінгвістычных дыскусіях і толькі 684 "галасы" ў дыскусіях літаратуразнаўцаў. Адкуль гэтая розніца — пытанне. Я думаю, справа ў большай адкрытасці мовазнаўцаў, іх большай настроенасці на дыялог.

### 9. Жнівеньскія чытанні для ВНУ

Статыстыкі наконт месца працы ўдзельнікаў Кракаўскага кангрэса не было, але вядома, што не менш паловы з іх — універсітэцкія выкладчыкі. І я ў іх ліку. Магчыма, таму я адчувала яшчэ адзін бок Кангрэса: акрамя фестывалю і алімпіяды, ён мне нагадваў жнівеньскія настаўніцкія чытанні. Вядома, што напярэдадні новага навучальнага года настаўнікам вельмі патрэбныя сходы, дзе можна зноў адчуць сябе вучнем і сапраўды нечаму навучыцца. Кракаўскі кангрэс быў для нас такім сходам. Мы адчулі сябе вучнямі, студэнтамі. Мы не вучылі, а вучыліся. А гэта дапамагае, перш за ўсё, — бачыць новыя гарызонты сваёй справы.

**Ніна МЯЧКОЎСКАЯ,**
**доктар філалагічных навук, прафесар БДУ**

---

Рэжысёр і публіцыст, спадар В. Дашук, у газэце "ЛіМ" у артыкуле-інтэрв'ю "Раніца сумных развагˮ выказаў, мякка кажучы, надзіва "п'яную" думку. Мяркуйце самі...

**... — Са мной могуць не пагадзіцца, аднак я лічу, што ў амерыканскім кіно наогул адсутнічае прадмет мастацтва. Усе якасныя амерыканскія карціны зрабілі еўрапейцы: чэх М. Форман, паляк Р. Паланскі. За гэтымі рэжысёрамі — еўрапейская культура. Амерыка — гэта краіна, дзе няма літаратуры, музыкі, кінематографа. Гучыць па-блюзнерску, але гэта праўда. Я тры месяцы жыў у Нью-Йорку і заўважыў, што амерыканскія жанчыны не разумеюць, што такое лінія ў касцюме. Вобраз Амерыкі — гэта джынсы. Рэч прымітыўная, хоць і практычная. Раней я не разумеў, чаму Амерыка так ахвотна прымае савецкіх эмігрантаў — пісьменнікаў, вучоных. Калі б амерыканцы не папаўнялі сваю інтэлектуальную эліту, то даўно зніклі б, ператварыліся б прымітыўную нацыю. А прымітыўная нацыя — канец дзяржавы!**

**Кожны дзень мы глядзім пяць-шэсць амерыканскіх фільмаў. Але не адзін з іх мы не можам узнавіць у памяці. Гэта чыста камерцыйнае бауленне часу. Сёння мы назіраем хутчэй не крызіс кіно, а крызіс чалавека, які з'яўляецца спажыўцом таннага, камерцыйнага кінематографа. Чалавек настолькі заблытаўся ў спажывецкіх праблемах, што для духоўнага развіцця ў яго няма ні часу, ні жадання...**



**У ЮБІЛЕЙНЫ год Адама Міцкевіча ўсё часцей зноў і зноў можна пачуць спрэчкі аб этнічным паходжанні паэта. У нейкай ступені сюды прымыкае і пытанне аб дэфініцыі (вызначэнні) паняцця Літва. Што яна сабой уяўляе — этнічнае ўтварэнне, вялікая і магутная сацыяльная папуляцыя, алегархічны клан? Пры высвятленні гэтых пытанняў неяк менш за ўсё звяртаюцца да аўтарытэтнага голасу самога класіка сусветнай літаратуры.**

# Эпісталярый паэта сведчыць...

**Пра сваю Айчыну, імя якой Літва (не Жамойць, не Жмудзь) летапісная ды гістарычная з былымі сталіцамі у Наваградку і ў Вільні, паэт гаворыць ужо ў першых радках "Пана Тадэвуша: "litwo! Ojczyzno moja! Ty jestes jak zdrowie..." Сюды ж дапасоўваецца і падзагаловак эпапеі — "Апошні заезд на Літве". Прачытаўшы паэму на мове арыгінала ці ў перакладзе на беларускую або рускую мовы, мы не можам не пагадзіцца, што Літвой Адам Міцкевіч называе ў адпаведнасці з тагачаснай традыцыяй сваю родную Наваградчыну, якая ўваходзіла раней у склад Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Пра гэта сведчаць літаральна ўсе мастацкія творы і часткова публіцыстычная спадчына вялікага сына наваградскай зямлі, зноў жа — на якой бы мове яны ні былі напісаныя.**

**Адносна сваёй нацыянальнай прыналежнасці наш славуты зямляк пакінуў шмат сведчанняў на старонках сваёй эпісталярнай спадчыны. Там жа мы знойдзем і словы, скажам прама, некампліментарныя пра Жамойць і жмудзінаў, г. зн. пра Літву і літоўцаў, калі карыстацца сучаснай этнатэрміналогіяй. Чытаючы гэтыя дакументы, мы лёгка пераканаемся ў тым, што Адам Міцкевіч не быў ні палякам, ні жмудзінам, ні яўрэем і нават ні татарынам, і што Літва і літвіны — гэта краіна і народ. Калі перавесці на сённяшнюю тэрміналогію — Беларусь і беларусы.**

Вось фрагмент ліста А. Міцкевіча да роднага брата Францішка Міцкевіча да 3 сакавіка 1841 г. з Парыжа: "...College de France, дзе я чытаю лекцыі, гэта вышэйшая школа для выпадковай публікі. Студэнтаў уласна няма. Прафесарам даводзіцца ўздзейнічаць красамоўствам, што для французаў лягчэй, чым для мяне. Галоўная непрыемнасць майго становішча заключаецца ў тым, што я знаходжуся сярод эміграцыі. Ты не можаш і ўявіць, якое гора з гэтымі людзьмі, што замкнуліся ў журботным становішчы. Кожны ўдзень і ўночы выдумваюць палітычныя праекты і шалеюць, не маючы сіл перацягнуць іншых на свой бок. Ходзяць нашы і на мае лекцыі, але толькі затым, каб выведаць, да якой партыі я належу: арыстакрат ці дэмакрат? І сярдуюць, што я ім не гавару пра палітыку.

Цяпер, здаецца, крыху супакоіліся. У будучым годзе, калі я тут застануся, будзе лягчэй і з курсам і з эміграцыяй, якая, відаць, пакіне мяне ў спакоі. Можа быць, удасца атрымаць званне прафесара без натуралізацыі, бо мне неяк шкада перастаць быць **літвінам**(тут і далей выдзелена мною. — **Я. Г.**) ды і не па душы пераварацца ў француза.

З радзімы даўно не маю ніякіх вестак. Пра Аляксандра не ведаю нават, ці жывы ён.

З тутэйшых знаёмых часцей за ўсё сустракаюся з Занам, Кашыцам і ўсякай іншай **Літвой**. Зан часта хварэе. Брат яго Тамаш цяпер у Пецярбурзе..."

А вось яшчэ радкі са студзеньскага ліста 1847 г. з Парыжа да таго ж Францішка: "Будзь толькі заўсёды ўпэўнены, што мая дзейнасць бярэ пачатак з той глебы, на якой мы выраслі ў бацькоўскім доме... Пра Аляксандра я ведаю толькі, што ён жывы і стала знаходзіцца ў Харкаве. Ён ажаніўся на дачцэ Францішка Тарасевіча, бывае часам у Наваградку, наведаў Завоссе..."

І зноў жа да брата Францішка пра брата Аляксандра ў лісце ад 14 чэрвеня 1852г. з Парыжа: "...Я чуў, што брат наш Аляксандр вярнуўся ў наваградскія краі і купіў там маёнтак. Мне здаецца, што ты павінен ведаць аб гэтым, паведамі мне, калі ласка, што гэта за маёнтак. Як табе вядома, мы ж ведаем тыя краі, і было б прыемна даведацца дакладна, дзе там наш брат асеў".

26 чэрвеня 1853 г. Адам Міцкевіч піша з Парыжа ў Чылі да сябра ранняй маладосці таксама філамата Ігната Дамейкі: "Дарагі Ігнат! Вось сёе-тое аб нашых былых сябрах і мінулых часах. З двух канцоў зямлі, што аддзяліла нас аднаго ад другога, мы бачым па-рознаму сённяшнія часы, у мінулым жа сустракаемся як і раней. Не ведаю, ці вядома табе, што ад нас пайшоў твой былы знаёмы, а мой стары сябра (з першага класа) Ян Чачот. Дзень яго смерці нам невядомы. Мы даведаліся толькі, што ён ужо памёр. Прыблізна ў той час, калі ён памёр, мне ўсё сніўся аб ім адно і тое ж: што ён прыехаў у Парыж, а я з-за нейкіх перашкод не магу з ім пабачыцца. Гэта мучыла мяне ў сне, і я прачынаўся сумны. Мне доўга не хацелася верыць паведамленням аб яго смерці, якія ў нас так цяжка праверыць. Цяпер я ведаю напэўна, што ён памёр. Доўгія гады і многа ўспамінаў звязвалі мяне з ім. Перад смерцю ён выпусціў беларускія песні, і яны там у нас выклікалі многа спагады..."

Цікавым бачыцца і ліст да Веры Хлюсцінай ад 25 кастрычніка 1857 г. з Канстанцінопаля: "Трэба быць надзеленым вельмі дэмакратычнымі і вельмі моцнымі органамі пачуццяў, каб вынесці першае ўражанне ад усходняга горада. Між іншым, я хутка прывык. Прызнаюся, што ўсё гэта не пазбаўлена чароўнасці, а я затрымліваўся ў некаторых частках горада, якія здаваліся мне зусім падобнымі на вуліцы майго роднага мястэчка (Наваградка) у **Літве**..."

Немагчыма не прывесці хаця б фрагмент ліста да сваёй дачкі Марыны у Рым з Парыжа ад 19 снежня 1851 г.: "Мне прыемна, што Рым цябе крануў. Усякая душа павінна быць чым-небудзь рухома; калі яе не кранае вялікае, дык яна кешкаецца ў нізасці і подласці. Рым пакуль найвялікшая рэч на зямлі. Не многім давялося пабываць у Рыме. У маладосці я ледзь асмельваўся марыць аб гэтым. У мае часы трапіць туды было так цяжка (з Наваградка), як цяпер з зямлі на месяц. Ты і не паверыш, як мы сумавалі па ім, чытаючы Лівія, Святонія і Тацыта... Дзе ваш завулак? Я не памятаю яго, хаця Рым адзіны горад (апроч Наваградка і Вільні), які я ведаю значна лепш, чым Парыж. Напішы, паміж якімі вуліцамі гэты завулак..."

Не абыдзем увагай і радкі ліста да Багдана Залескага (маларосa) ад 23 чэрвеня 1841 г. з Парыжа: "Кабінеты задумваюць штосьці адносна княства Варшаўскага, але пра нас і не думаюць. Гора нам, **літвінам**, і вам, русінам, і толькі на Бога ўся надзея ды на заступнікаў Польшчы, калі яны яшчэ прызнаюць у нас сваіх суайчыннікаў..."

А вось з лістоў юнацкіх гадоў. Да Тамаша Зана ад 15 жніўня 1822 г. з Вільні ў Наваградак: "Хацелася б мне самому яшчэ праехацца па наваградскіх мясцінах, але не ведаю, ці ўдасца да першага верасня, а першага я абавязан быць на месцы..."; да Францішка Малеўскага ад 16 чэрвеня 1820 г. з Коўна: "Тут нарадзіўся праект павезці мяне да мора, аднак здароўю майму марскія купанні, на думку Кавальскага, карысці не дадуць. Усё ж, паколькі дарога бясплатная і ў прыемнай кампаніі, прытым можна будзе ўбачыць Мітаву, Мемель, а быць можа, і Крулевец, то калі паездка гэта адбярэ не больш двух тыдняў вакацый, я хацеў бы здзейсніць яе — не, не хацеў бы, — які я непастаянны! Якраз цяпер, калі я стаў пісаць ліст і вашы лісты нагадалі мне пра вас і пра Наваградак, рашэнне маё мяняецца. Не магу ехаць на два тыдні пасля св. Пятра — дзе б я вас потым усіх разам убачыў?.."; амаль за тыдзень да гэтага — 11 чэрвеня 1820 г. з Коўна пісаў да Юзэфа Яжоўскага: "Убачу вас усіх, і хаця гэту заўчасную радасць атручвае дрэнны стан здароўя, з-за якога, калі яно не наладзіцца, усе канікулы страцяць для мяне сваю прывабнасць, — усе ж мне будзе прыемней з вамі, чым у гэтым праклятым Коўне, якое так дорага каштавала мне..."; а 27 студзеня 1820 г. паведамляў філаматам у Вільню з Коўна: "Прыходжу са школы амаль заўсёды разззлаваны ці непаслушэнствам, ці, што бывае часцей, тупасцю вучняў. Дарэмная праца! Кідаюся на ложак і ляжу некалькі гадзін, ні пра што не думаючы, злы і кіслы. Часам хандра і злосць такія вялікія, што дастаткова дадаць дзве унцыі, каб звар'яцець ці павесіцца..."; а яшчэ крышку раней — 19 лістапада 1819 г. — адтуль жа пісаў Юзафу Яжоўскаму: "Усё па-старому — вось першае паведамленне. Усё кепска: так выцякала б з першага, аднак скажу толькі: усё не вельмі добра. Нуда, бесталкоўшчына, санлівасць, лянота etc. Астывае жаданне рупліва выкладаць, паколькі ў старэйшых класах галовы зусім "жмудскія"; зрэшты, самі настаўнікі наракаюць, што ніколі не траплялiся школы, настолькі бедныя на таленты. Вось мы і мучаемся, і пакутуем..." І яшчэ да таго ж Юзафа Яжоўскага ад 18 кастрычніка 1819 г. з Коўна: "Але маркотней за ўсё, што і карысці мала, школа нешматлікая, а значыць, і талентаў мала; у малодшых класах усё ж ёсць цудоўныя надзеі, у старэйшых — убоства. Толькі двое-трое на людзей падобны, і вось яны да мяне прывязаліся. Я іх заахвочваю, даю кніжкі, чытаю; вялікімі людзьмі не стануць, але добрымі і ня дрэнна навучанымі маглі б стаць, калі б узяліся за працу і трапілі ва універсітэт, таму што сякія-такія здольнасці ў іх ёсць. Да гэтай пары ім было няўцям, што значыць пісаць. Ніякага заахвочвання да навук у школе няма, здаецца, быццам яна паміpае ці засынае; вучні гавораць ціха, баязліва і марудна, настаўнікі — таксама. Беднасць у павеце і ў школе крайняя; у старэйшых класах, г. зн. у пятым і шостым, усяго адзін толькі вучань жыве на свае сродкі, астатнія вымушаны гувернёрстваваць, а па сканчэнні школы шукаць кавалак хлеба..."

Цытаванне такога накірунку можна было б доўжыць, але, думаецца, дастаткова і гэтага матэрыялу, каб і ён у пэўнай ступені мог працаваць на рашэнне аб'ектыўна неіснуючых праблем, але якія сёй-той са знoўспечаных калялітаратурных (і не толькі) спецыялістаў-рэвізіяністаў усё ж імкнецца паднядзь і ўзняць як мага вышэй.

**Яўген ГУЧОК**






